ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№32 (2538)

7 жніўня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

ДА 480-годдзя БЕЛАРУСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ

## УРОКІ І ЗАПАВЕТЫ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

480 гадоў таму назад, 6 жніўня 1517 года, Францішак Скарына надрукаваў у Празе "Псалтыр". Гэта быў пачатак беларускага і ўсяго ўсходнеславянскага кнігадрукавання. На працягу 1517—1519 гг. Скарына выдаў там яшчэ 22 кнігі Біблії. Сваю друкарскую дзейнасць у 1522—1525 гг. працягваў у Вільні, дзе нарадзілася "Малая падарожная кніжка", якая складаецца з 21-й самастойнай часткі (Псалтыр, Часасловец, 8 акафістаў, 9 канонаў, Шасцідневец і Саборнік, які ў сваю чаргу ўключае Святцы і Пасхалію; у заключэнне даецца агульнае пасляслоўе). У 1525 г. пабачыў свет "Апостал".

Да спадчыны Францішка Скарыны даследчыкі звярнуліся не адразу, а ў XIX стагоддзі, прытым спачатку польскія і рускія. Беларускія ж аўтары пачалі пісаць пра яго толькі ў XX стагоддзі. І да сённяшняга дня ў жыцці і дзейнасці нашага першадрукара застаецца шмат так званых "белых плям". Мы дакладна не ведаем ні даты яго нараджэння, ні дня яго смерці. Вядома толькі, што быў ён сынам купца Лукі са "слаўнага горада Полацка", у 1504—1506 гг. вучыўся ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве, дзе атрымаў першую навуковую ступень бакалаўра, у лістападзе 1512 г. здаў у Падуі экзамен на вучоную ступень "у лекарскіх навуках доктара". Недзе стаў ён таксама і "ў вызваленых навуках доктарам". Дайшлі да нас і некаторыя іншыя звесткі.

Аднак пакуль што яшчэ ніхто не даў рады адказаць на пытанні, якім быў лёс Скарыны паміж 1506 і 1512 гадамі, што ён рабіў пасля экзамена ў Падуі да пачатку друкарскай дзейнасці ў 1517 г. Не так ужо шмат звестак зберaглося аб жыцці першадрукара пасля 1525 г. Затое ж мы маем скарынінскія кнігі не толькі з тэкстамі Свяшчэннага пісання, але і з прадмовамі і пасляслоўямі, з разважаннямі і настаўленнямі, якія адрасаваў ён сваім сучаснікам, "людзям паспалітым", звяртаючыся да іх з паvучальным словам. Тыя разважанні шмат у чым надзіва каштоўнымі аказаліся і ў наш час, амаль праз паўтысячагоддзя пасля таго, як нарадзіліся ў душы слаўнага палачаніна і разам са Свяшчэнным пісаннем пайшлі да чытача ў шырокі ўсходнеславянскі свет.

Францішак Скарына быў адным з тых дзеячаў, якія ў эпоху еўрапейскага Рэнесанса сваёй дзейнасцю разбуралі манаполію царкоўнікаў на прапаганду слова Божага і гэтым самым — на адукацыю, выхаванне, на панаванне над душамі верных. Непахісны аўтарытэт Біблії пачаў выкарыстоўвацца, каб падмываць тыя асновы феадальнага ладу, што на працягу стагоддзяў уяўляліся непарушнымі. А для гэтага Свяшчэннае пісанне перакладалася на зразумелую народу мову. Тым больш, што сам Скарына да біблейскіх тэкстаў даваў свае тлумачэнні.

Бясспрэчна тое, што наш першадрукар сваёй дзейнасцю не падрываў асноў хрысціянскага веравучэння. Сёння мы бачым, што ён імкнуўся ўзняць на належную вышыню тое высакароднае, што ў Біблії можна было знайсці. Разглядаючы яе як універсальную крыніцу ведаў, Скарына змагаўся пры яе дапамозе за выхаванне ў "людзей посполитых" найбольш высакародных грамадзянскіх і чыста чалавечых пачуццяў і норм паводзін: патрыятызму, павагі да чалавека, непрымірымасці да несправядлівасці, крыўды, прыгнёту.

Усе мы добра памятаем, з якім пафасам Францішак Скарына праслаўляў патрыятычнае пачуццё ў прадмове да "Книги Иудиф-вдовици": "Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по воздуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в

(Заканчэнне на 6-7-й стар.).

ЛАД ЖЫЦЦЯ

## ДЫМ АЙЧЫНЫ — ЦЫГАРЭТНЫ ДЫМ?

**Недзе з паўгода ў маёй сям'і ішла ледзь не сапраўдная вайна з шаснаццацігадовым сынам — ён пачаў курыць. Што толькі мы ні рабілі: угаворвалі, тлумачылі шкоднасць тытуню для здароўя, пагражалі самымі суровымі карамі, абмяжоўвалі кішэнныя грошы. Я нават дайшла да таго, што абшуквала яго вопратку, каб "канфіскаваць" чарговы пачак цыгарэт. Але ўсё было амаль дарэмна. У рэшце хлопец патлумачыў: маўляў, не трэба вам, бацькі, так рваца. Калі спатрэбіцца, я заўсёды змагу "стральнуць" цыгарэтку ў сяброў. Але, дадаў ён, мне не вельмі падабаецца курыць.**

**Менавіта апошняе, мяркую, і адыграла рашаючую ролю, бо практычна непадкантрольнае вар'яцтва з курэннем сціхла. Крыху пазней пацікавілася ў сына: навошта ўвогуле брацца за цыгарэту, калі няма вялікага жадання? У адказ пачула: "Зараз так прынята..."**

Зараз так прынята... Па звестках Міністэрства гандлю, летась на Беларусі было рэалізавана 8 мільярдаў 869 мільёнаў штук цыгарэт: па 859 штук на душу насельніцтва, старэйшага за 18 год (па закону забаронена прадаваць тытунёвыя вырабы дзецям і падлеткам). За пяць першых месяцаў бягучага года агульная лічба продажу цыгарэт склала 3 мільярды 230 мільёнаў штук, тым самым істотна перавысіўшы адпаведны паказчык за 1996 год — 2 мільярды 755 мільёнаў штук. Але прыведзеныя даныя толькі частка сапраўднага айсберга. У афіцыйныя зводкі не трапляе статыстыка кантрабанднага правозу і продажу цыгарэт. Вырабленыя недзе на Украіне ці ў Расіі "Мальбара", "Кэмел", "Ротманс" і г. д. літаральна запаланілі нелегальны тытунёвы рынак краіны, які набыў велізарныя маштабы: па некаторых звестках ён даходзіць да 80 працэнтаў спажывання. Бабулькі, пажылыя кабеты, маладзіцы, усе з абоймамі рознакаляровых цыгарэтных пачкаў у руках, ужо сталі неад'емнай часткай гарадскіх падземных пераходаў, плошчаў перад вакзаламі, базарамі і крамамі. Яны

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Залатое вяселле адсвяткавалі жыхары Віцебска Любоў і Фёдар Козыравы. Павіншаваць шчаслівую пару з залатым юбілеем у Палацы шлюбу сабраліся іх дзеці, унукі, сябры. А затым, як і 50 гадоў назад, Любоў Паўлаўна ўзяла ў рукі гармонік і ўсё "вяселле спявала і танцавала".**

**НА ЗДЫМКУ: Любоў Паўлаўна і Фёдар Якаўлевіч у дзень залатога юбілею.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

ПАМЯЦІ МІХАСЯ МІЦКЕВІЧА

18 ліпеня ў літаратурным музеі Якуба Коласа адбылася вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Міхася Міцкевіча (Антона Галіны) — празаіка, публіцыста, перакладчыка, педагога. Ён быў малодшым братам Якуба Коласа, выняцеў з гнязда таленавітай і працавітай беларускай сям'і Міцкевічаў. Скончыў, як і Якуб Колас, Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, жыў на хутары Смольня, побач з братам Іосіфам (дзядзькам Юзікам).

## ГОДНА НЁС ЗВАННЕ БЕЛАРУСА

Падчас вайны працаваў інспектарам школ, вучыў па хатах дзяцей, бо многія школы былі спалены. А паколькі па савецкіх законах гэта лічылася супрацоўніцтвам з немцамі, у 1944 годзе вымушаны быў эміграваць. Жыў напачатку ў Чэхаславакіі, Заходняй Германіі ў лагерах для перамешчаных асоб, працаваў настаўнікам у беларускіх школах, якія былі адкрыты беларусамі-выгнаннікамі, выдаваў чытанкі для школьнікаў. У 1950 годзе разам з многімі беларусамі выехаў у ЗША, жыў у Нью-Йорку, таксама вучыў беларускіх дзяцей у класах, якія дзейнічалі пры царкве, працаваў рэдактарам газеты "Беларус" (1952—60), затым часопіса "Голас царквы" (1970—81).

Вайна падзяліла жыццёвы лёс Міхася Міцкевіча на дзве роўныя часткі: 47 гадоў ён пражыў на радзіме і 47 — на эміграцыі. Памёр Міхась Міцкевіч на 94-м годзе жыцця і пахаваны далёка ад Бацькаўшчыны, на беларускіх могілках Саўт-Рывера (Іст-Браунсвік, штат Нью-Джэрсі).

Пісьменніцкі талент Антося Галіны (гэтым літаратурным псеўданімам падпісваў ён свае творы) вельмі блізкі творчай манеры Якуба Коласа — тое ж тонкае, глыбокае адчуванне прыгажосці беларускага слова, веданне сялянскага жыцця і ўменне перадаць, раскрыць рысы характару чалавека, мяккі задушэўны гумар — усё гэта яскрава праяўлялася ў яго апавяданнях, фельетонах, невялікіх аповесцях, якія ён

(Заканчэнне на 5-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*У АФІЦЫЙНЫМ ЛЮСТЭРКУ*

# СУАЙЧЫННІКІ ДАВЕДАЛІСЯ ПРАЎДУ АБ БЕЛАРУСІ



Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сустрэўся 28 ліпеня з дэлегатамі Другога з'езда беларусаў свету.

У гэтым мерапрыемстве прынялі таксама ўдзел кіраўнікі розных галін улады нашай рэспублікі. У сваім выступленні перад прысутнымі кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ён з вялікай увагай сачыў за ходам форуму і ў яго склалася вельмі няпростае ўражанне ад таго, што адбываецца на з'ездзе і вакол яго. Таму Аляксандр Лукашэнка, папрасіўшы прабачэння ў дэлегатаў за яго арганізацыю, папрасіў іх не ўспрымаць адносіны, панаваўшыя на ім, як адносіны ўсяго народа, які пражывае на беларускай зямлі, да сваіх суайчыннікаў за мяжой. Пры гэтым ён адзначыў, што ўзаемаадносіны дзяржавы з дыяспарамі — гэта такая ж з'ява, як адносіны бацькоў, сям'і са сваімі дзецьмі — рознымі па характару, узросту, сацыяльнаму становішчу. Яны аб'ядноўваюць людзей клопатамі аб родным гняздзе, родным краі. Аб такой любові да радзімы і клопатах пра яе гаварыў у свой час і Францыск Скарына, сказаў прэзідэнт, і такія адносіны ва ўсім свеце лічацца найбольш высакароднымі і чыстымі, адзначыў ён. На гэтым фоне добразычлівасці і адданасці сваёй Айчыне зусім інакш выглядаюць прадстаўнікі апазіцыйных партый Беларусі, заявіў Аляксандр Лукашэнка. Ён таксама паведаміў, што адзін з гэтых лідэраў, пастаянна раз'язджаючы па замежных краінах, вылівае паток абраз у адрас Рэспублікі Беларусь, называючы яе народ несвядомым і цёмным толькі за тое, што ён не выбраў яго прэзідэнтам. Больш таго, сказаў кіраўнік дзяржавы, ён "пад звонкія крыкі аб неабходнасці дэмакратыі і законнасці ў Беларусі дагаварыўся да таго, што заклікае да неканстытуцыйных сродкаў барацьбы за сваю палітычную ўладу". Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што асабліва непрыемна, калі з падачы такіх дзеячаў асобнымі сродкамі масавай інфармацыі ствараецца поўнасцю скажоная карціна аб становішчы ў нашай краіне.

У сувязі з гэтым кіраўнік дзяржавы заявіў на сустрэчы, што людзі, якія не маюць магчымасці часцей наведваць рэспубліку, павінны ведаць праўду аб ёй. Ён асабліва падкрэсліў, што галоўнае дасягненне ў Беларусі — гэта мір і згода, а сацыяльна-эканамічныя працэсы ў пераходны перыяд у параўнанні з іншымі рэгіёнамі былога СССР адбываюцца больш спакойна і цывілізавана. Усе галоўныя пытанні жыцця народа вырашаюцца самым дэмакратычным шляхам — на рэферэндуме. А для прэзідэнта воля народа — гэта закон, сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Прааналізаваўшы сітуацыю ў краіне, кіраўнік дзяржавы ў сваім выступленні спыніўся на адносінах з Расіяй, ініцыятывах Беларусі і яе пазіцыі па пашырэнню НАТО, развіцці беларускай мовы, на іншых пытаннях.

Вяртаючыся да правядзення Другога з'езда беларусаў свету, Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу яго дэлегатаў на тое, што такі форум "палітычныя ігракі хочуць выкарыстаць як апошні козыр супраць прэзідэнта і ўцягнуць яго дэлегатаў у інтрыгі і палітыканства". Ён выказаў упэўненасць, што прадстаўнікі беларускіх дыяспар за мяжой не стануць простай картай у такой гульні, на што прысутныя адказалі бурнымі апладысментамі.

Дэлегаты з'езда, якія выступілі на сустрэчы, выказалі шэраг прапаноў па ўдасканаленню сувязей дзяржавы з суайчыннікамі за мяжой, папрасілі прэзідэнта дапамагчы вырашыць узнікшыя праблемы.

**БелТА.**

# ЗВАРОТ ДА ПРЭЗІДЭНТА, ПАРЛАМЕНТА, НАРОДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Мы, удзельнікі II-га з'езда Сусветнай беларускай абшчыны "Бацькаўшчына", звяртаемся да Вас з роспаччу і надзеяй.

Другі Сусветны з'езд беларускай абшчыны "Бацькаўшчына" праходзіць у абстаноўцы палітычнай напружанасці.

Мы, дэлегаты, зразумелі, з якой мэтай быў скліканы наш з'езд. Яго ідэі маюць дэструктыўны характар і накіраваны на падрыў намаганняў беларускага ўрада і Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі А. Р. па аб'яднанню славянскіх і брацкіх народаў на постсавецкай прасторы.

Народны Прэзідэнт Беларусі і кіруемы ім урад робяць усё, каб палепшыць жыццёвы ўзровень свайго народа і выканаць яго волю па аб'яднанню славянскіх і брацкіх народаў былой нашай Вялікай Радзімы. Гэта ўжо дало свае першыя станоўчыя вынікі. Адбылося аб'яднанне народаў Расіі і Беларусі, што не ўваходзіць у планы заходніх палітыкаў.

Яны любымі сродкамі спрабуюць убіць клін разладу, каб гэты працэс не пайшоў далей. З дапамогай нацыяналізму была разбурана наша Вялікая Радзіма. Мы страцілі агульнанародную ўласнасць на сродкі вытворчасці, права на працу, на жыллё, медыцынскую дапамогу, адукацыю і сацыяльныя гарантыі. Узамен атрымалі заходнюю дэмакратыю, разбэшчанасць моладзі, беспрацоўе, сацыяльную неабароненасць, прававое безуладдзе, дэградацыю грамадства і паступовае ператварэнне нас у сыравінны прыдатак і танную рабочую сілу для заходніх гаспадароў.

Выказваючы волю сваіх заакіянскіх гаспадароў, значная частка дэлегатаў "Бацькаўшчыны", якая прыбыла з заходніх краін і імі фінансуецца, робяць усё, каб гэты з'езд не аб'яднаў усіх беларусаў у адзінае цэлае разам з брацкімі славянскімі народамі краін СНД, а наадварот раз'яднаў.

На жаль, знайшлі яны такіх саўдзельнікаў: нацыяналістаў-адшчапенцаў за зялёны долар і ў Беларусі. Хоць яны і не прадстаўляюць большасці насельніцтва Беларусі, але, падтрымліваемыя Захадам, спрабуюць унесці раскол у наша адзінства з далёка ідучымі палітычнымі мэтамі. А мэта іх адна — адарваць Рэспубліку Беларусь і яе народ ад той лініі, якую праводзіць Прэзідэнт Лукашэнка па аб'яднанню брацкіх народаў на постсавецкай прасторы.

Таму мы падтрымліваем і адабраем тую палітыку, якую праводзіць Прэзідэнт Лукашэнка А. Р. па аб'яднанню славянскіх і брацкіх народаў у былой нашай Радзіме і выказваем поўны недавер кіраўніцтву абшчыны "Бацькаўшчына". Заклікаем усе беларускія абшчыны на постсавецкай прасторы аб'яднацца і стварыць новую арганізацыю, якая б выказвала спадзяванні і інтарэсы не нацыяналістаў, якія ідуць у фарватэры інтарэсаў заходніх дзяржаў, а большасці беларускага народа.

У сувязі з гэтым звяртаемся да Вас з заклікам:

— І далей праводзіць палітыку, накіраваную на ўстанаўленне народнай дэмакратыі, улады народа, эканомікі, арыентаванай на інтарэсы ўсіх працоўных;

— Зрабіць усё магчымае для паскарэння працэсу інтэграцыі ўсіх рэспублік на тэрыторыі былогоа Савецкага Саюза і перш за ўсё славянскіх дзяржаў як асновы будучыні нашай Радзімы;

— Узмацніць барацьбу супраць экспансіі заходняй ідэалогіі і культуры, супраць прасоўвання НАТО на Усход, супраць спроб унесці раскол у адзінства беларускага народа і славянскіх народаў;

— Стаць больш актыўным цэнтрам аб'яднання ўсіх беларусаў, для чаго выступіць ініцыятарам стварэння сапраўды народнага Сусветнага таварыства беларусаў, узамен поўнасцю скампраметаваўшага сябе аб'яднання "Бацькаўшчына", якое адлюстроўвае думку нязначнай часткі нашага народа.

Мы ў меру сваіх сіл і магчымасцей гатовы ўсямерна падтрымаць Вашы намаганні ў гэтым напрамку.

* * *

Ад імя дэлегацый зварот падпісаны прадстаўнікамі беларускіх абшчын Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі, Мурманска, Рэспублікі Комі, Масквы, Усходняга рэгіёна Украіны, Чарнігаўскай і Івана-Франкоўскай абласцей, Кыргызстана.

*II З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ*

# ЛІНІЯ РАЗМЕЖАВАННЯ

26—27 ліпеня ў Мінску адбыўся Другі з'езд беларусаў свету, які ладзіла ЗБС "Бацькаўшчына". У яго рабоце прынялі ўдзел каля 700 дэлегатаў і гасцей, якія з'ехаліся ў Мінск з усёй Беларусі, з далёкага і блізкага замежжа. У мерапрыемстве таксама прынялі ўдзел кіраўнікі розных галін улады нашай краіны. Афіцыйных дэлегацый не прыслалі землякі з Англіі, Канады і Злучаных Штатаў Амерыкі.

З дакладам на з'ездзе выступіў прэзідэнт згуртавання "Бацькаўшчына" акадэмік Радзім Гарэцкі. Чатыры гады назад была прынята праграма "Беларусы ў свеце", а сёння выконваецца яна вельмі дрэнна, адзначыў дакладчык. Больш 1000 гадоў прысутнічае Беларусь у свеце, а мы маем сёння такое становішча, калі яна можа знікнуць, бо Беларусь без беларускай мовы — гэта ўжо не Беларусь.

Многія яшчэ памятаюць атмасферу святочнасці і добразычлівасці, у якой праходзіў Першы з'езд беларусаў свету. На жаль, гэтым разам работа праходзіла нервова і часам напружана. Пачалося, мабыць, з таго, што "Бацькаўшчына" да апошняга моманту не ведала, ці зможа правесці свой форум, бо ёй было адмоўлена ў памяшканні для правядзення мерапрыемства. На наступны дзень неадназначна было сустрэта ў зале прывітанне з'езду Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі. Раскол сярод дэлегатаў абазначыўся яшчэ больш выразна ў час выступленняў, калі кожны з прамоўцаў выказваў свой уласны пункт погляду на падзеі ў Беларусі, сваё стаўленне да працы згуртавання "Бацькаўшчына". На жаль, адносіны паміж залай і прамоўцамі насілі не заўсёды цывілізаваны і канструктыўны характар. Кіраўніцтва "Бацькаўшчыны", у прыватнасці Р. Гарэцкі, асудзіў такія паводзіны залы, падкрэсліўшы, што "Бацькаўшчына" непалітычная арганізацыя, яна аб'ядноўвае, а не раз'ядноўвае беларусаў. Яна павінна працаваць з кожным беларусам, якіх бы поглядаў ён ні прытрымліваўся. Радзім Гарэцкі неаднаразова заклікаў весці сябе культурна і талерантна, быць цывілізаванымі людзьмі. Аднак рознасць поглядаў, разыходжанне ў падыходах да абмяркоўваемых праблем прывялі да размежавання, расколу беларусаў.

І ўсё ж большасць прамоўцаў, якія прыехалі з былых рэспублік Савецкага Саюза, з Польшчы, Аўстраліі, Англіі — расказвалі пра сваю работу ў беларускіх суполках, якія існуюць у гэтых краінах, выказвалі занепакоенасць становішчам на Бацькаўшчыне, гаварылі аб набалелым, прасілі дапамогі ў вырашэнні праблем дыяспары.

Ацаніўшы работу згуртавання "Бацькаўшчына" як станоўчую, з'езд у прынятай рэзалюцыі адзначыў, што яго лідэрам трэба больш рашуча дзейнічаць у рамках статута і напаўняць праграму арганізацыі канкрэтнымі справамі, адпаведна сучаснаму моманту. На новы чатырохгадовы тэрмін прэзідэнтам "Бацькаўшчыны" абраны Радзім Гарэцкі, старшынёй праўлення згуртавання — Ганна Сурмач.

*ГАДЫ МІКАЛАЯ ШАДУРСКАГА*



Больш сталага чалавека, чым Мікалай ШАДУРСКІ з хутара Судзіловічы Бярозаўскага раёна ў наваколлях, бадай, няма. Яму 95 гадоў. Нягледзячы на ўзрост ён па-ранейшаму прыгожы, рухавы, акуратны, а галоўнае жыццярадасны. Доўгае яго жыццё не было лёгкім. Перажыў тры вайны, выгадаваў трынаццаць дзяцей, дзевяць з якіх жывыя і здаровыя да гэтага часу, а ўжо ўнукаў, праўнукаў не пералічыць. А яшчэ ўсё жыццё Мікалай Максімавіч славіцца залатымі рукамі. Некалі будаваў млыны, цясляры́ў, майстраваў ветракі, мог адрамантаваць любыя гадзіннікі, зрабіць скрыпку і многае іншае. За якую б справу ні ўзяўся ўсё ў яго атрымлівалася. Хоць гады і бяруць сваё, аднак часта можна ўбачыць Мікалая Максімавіча занятага якой-небудзь справай па гаспадарцы.

НА ЗДЫМКУ: Мікалай ШАДУРСКІ са скрыпкай, якую ён зрабіў сам паўвека назад.

*У ДОБРЫ ШЛЯХ*

# «ФОРД ЮНІЯН»: КАНВЕЕР ПУШЧАНЫ

30 ліпеня адбылося ўрачыстае адкрыццё яшчэ аднаго завода сусветнавядомай аўтамабільнай кампаніі "Форд" — сумеснае прадпрыемства "Форд Юніян".

З самай раніцы ў пасёлак Абчак, недалёка ад Мінска, дзе размясцілася новая зборачная аўтавытворчасць, прыехалі сотні гасцей — прадстаўнікі ўрада, парламента рэспублікі, патэнцыяльныя дзелавыя партнёры, журналісты.

З гэтага дня "Форд Юніян" пачне серыйную зборку сваіх аўтамабіляў "Форд-Эскорт" і "Форд-транзіт". У вытворчай праграме прадпрыемства на першы год работы — зборка шасці тысяч аўтамабіляў. У далейшым яно мае намер паступова нарошчваць аб'ёмы іх выпуску.

*ПАСЛЯ ЎРАГАНУ*

# АЧЫСТКА ЛЕСУ

У рэспубліцы ідзе трэці этап ліквідацыі вынікаў чэрвеньскага ўрагану.

Работы па ачышчэнню лесу ад буралому праводзяцца ў 13 лясгасах Мінскай, 4 — Брэсцкай і ў адным лясгасе Гродзенскай абласцей сіламі лясгасаў, іншых міністэрстваў і ведамстваў. Па стану на 28 ліпеня нарыхтавана дзелавой драўніны і дроў 103,9 тысячы кубічных метраў. Засталося высекчы паваленай ураганам драўніны ў Мінскай вобласці 293,9 тысячы кубаметраў, у Брэсцкай — 334,7 тысячы кубаметраў.

600-годдзе ПАСЯЛЕННЯ ТАТАР НА БЕЛАРУСІ

## ДАРОГА ДА ХРАМА

Важная падзея адбылася ў жыцці навагрудскіх татар. Яны атрымалі аднаўленую мячэць, якая паўстагоддзя таму назад была закрыта і пераабсталявана пад жыллё. Ды ўладам прыйшлося вярнуць святыню вернікам. Праўда, справа гэта зацягнулася. Бо няпроста выдзеліць у наш час 8 кватэр, каб выслабаніць культавы будынак. А колькі клопатаў зведалі Бекір Шагідзевіч, Алі Шагідзевіч і іншыя актывісты мясцовай татарскай абшчыны, каб капітальна адрамантаваць храм.

Адкрыццём мячэці, якой споўнілася два стагоддзі, пачалiся ўрачыстасці з нагоды 600-годдзя пасялення татар на землях Беларусі. На пляцоўцы перад адроджанай святыняй і на прылеглай вуліцы сабраліся шматлікія госці свята, і таксама навагрудчане. Радасць мусульман раздзялілі і прадстаўнікі іншых канфесій. Аб знамянальнай падзеі ў духоўным жыцці Навагрудка гаварылі кіраўнік мусульман Беларусі Ісмаіл Александровіч, старшыня гарвыканкома Георгій Бака, старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па справах рэлігій і нацыянальнасцей Аляксандр Більк, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі Эва Спыхальска, кіраўнік Беларускага згуртавання татар "Эль-Кітаб" Абу-Бекір Шабановіч. З прывітаннем да сваіх суродзічаў выступілі прадстаўнікі татарскіх абшчын Гданьска і Шчэціна, Вільні і Сломіма, Гродна і Іўя, супрацоўнік іранскага пасольства у Варшаве...

На шаноўным сходзе гучала руская і польская, персідская і татарская мовы. А беларускае слова так і не прагучала б, калі б не звярнуўся з віншаваннем да татар ксёндз фарнага касцёла Антоній Дзяменка, які выступаў па-беларуску. Здзівіла прысутных і тое, што на ўрачыстасці не былі праваслаўныя святары, хоць у Навагрудку ёсць царква і сабор.

Пасля малебна ў мячэці адбылася свецкая частка свята. Па гораду праследавала тэатралізаванае шэсце. А ля Замкавай гары працавалі этнаграфічны музей татарскай культуры і выстава-продаж страў нацыянальнай кухні. Там жа праходзілі коннаспартыўныя гульні, спаборніцтвы барцоў і лучнікаў, выступленні мастацкіх калектываў.

600-годдзе пасялення татар-мусульман на землях Беларусі шырока адзначана і ў Іўі.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

*ЭКАЛАГІЧНЫ ЦЭНТР*



**Звыш тысячы дзяцей наведваюць Рэспубліканскі экалагічны цэнтр навучэнцаў, які дзейнічае ў Мінску ў Батанічным садзе. Тут яны вывучаюць прыроду роднага краю, атрымліваюць першыя навыкі біёлага, агранома, праводзяць вопытна-даследчую работу ў гуртках, вырошчваюць экзатычныя расліны, даглядаюць жывёл.**

**НА ЗДЫМКАХ: загадчыца секцыі жывёлагадоўлі Людміла КЛІМОВІЧ з вучнямі 191 школы горада Мінска Аняй ЗАЙДЭЛЬ, Сашай БАНДАРЧЫКАМ, Ірай ЛЕАНОВІЧ, Ігарам ГАЛАНАВЫМ; у аранжарэі заняткі з дзецьмі праводзіць кіраўнік гуртка кветаводства Людміла НЕСЦЯРЭНКА.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**



# ДЫМ АЙЧЫНЫ — ЦЫГАРЭТНЫ ДЫМ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

прапануюць свой тавар танней, чым у магазінах, а таму попыт трымаецца сталы. Да таго ж народу зручна: спяшаешся на працу ці ў школу, а "тытунёвы сервіс" тут як тут — літаральна стаіць на тваім шляху. Не спыняючыся, грошы сунеш, пачак схопіш і ўперад...

Пра тое, што "кропля нікаціну забівае каня", здаецца, ведае амаль кожны грамадзянін, народжаны і выхаваны на былых абсягах СССР. Выраз, які калісьці лічыўся вельмі вобразным і пераканаўчым, за доўгія гады эксплуатацыі зрабіўся ледзь не "крылатай фразай". Крылатай больш у тым сэнсе, што ў адно вуха ўлятала, а ў другое хуценька вылятала, пры гэтым ніяк не паўплываўшы ні на розум, ні на пачуцці агітуемага.

Увогуле, калі зірнуць навокал, істотных спядоў антынікацінавай прапаганды ў сённяшнім беларускім грамадстве не заўважыш. Нешта імкнуцца ўнушыць падлеткам у школе настаўнікі, аднак, на жаль, без станоўчага выніку. Арганізоўваюць спецыяльныя мерапрыемствы работнікі цэнтраў "Здароўе". Калі-нікалі з'яўляюцца "антынікацінавыя" артыкулы на старонках газет і так званыя "памяткі"-лісткоўкі з заклікам не курыць, берагчы здароўе. У гандаль не могуць трапіць цыгарэты без засцерагальнага надпісу пра шкоднасць курэння (праўда, звычайна досыць нязграбна, а на кантрабандный прадукцыі ён нярэдка ўвогуле адсутнічае). Таксама спецыяльныя органы сочаць за якасцю цыгарэт і папірос імпартных і айчынных. У прыватнасці, калі раней былі прэтэнзіі да Гродзенскай тытунёвай фабрыкі, то цяпер, кажуць, іх практычна няма. Усё гэта вельмі добра і вельмі патрэбна, але што кропля ў моры — у бурлівым, паўнаводным моры нікацінавай прапаганды.

Як расказвае галоўны ўрач Рэспубліканскага цэнтра "Здароўе" Ірына Цюхлова, у Брэсце было праведзена спецыяльнае апытанне сярод моладзі (15—25 год) наконт таго, як яны ўспрымаюць вялікія рэкламныя шчыты на вуліцах горада з назвамі замежных фірм, чый тытунь трапляе на беларускі рынак. Звычайна на такой карціцы няма выявы непасрэдна цыгарэт — толькі, скажам, мужныя, прыгожыя, моцныя мужчыны і надпіс "Camel", або вытанчаная, прывабная дзяўчына і зноў надпіс — "Rotmans". Тым больш для прыкрыцця падобныя кампаніі выпускаюць таксама яшчэ якія-небудзь майкі, джынсы і г. д. Аднак, па словах Ірыны Цюхловай, 54 працэнты апытаных адказалі: для іх гэта ў першую чаргу рэклама тытуню. А 52 працэнты ўвогуле расцэньваюць такое "ўпрыгажэнне" беларускіх вуліц, як непасрэдны сродак далучэння падлеткаў да курэння. Па даных анкетавання, у Мінскай вобласці кураць 5,8 працэнта школьнікаў 11—14 гадоў і 48 працэнтаў 15—17-гадовых.

Сёння фармальна рэклама тытунёвых вырабаў, як і алкаголю, у краіне забаронена. Прыняты нават спецыяльныя законы — "Аб папярэджванні інваліднасці і рэабілітацыі інвалідаў" і "Аб некаторых пытаннях рэкламнай дзейнасці". Але пакуль усё гэта хутчэй нагадвае гульню з мыльнымі бурбалкамі: у грамадстве няма сапраўднага настрою на барацьбу з курэннем. Чамусьці лічыцца: нам не да таго, ёсць справы больш актуальныя. Толькі незразумела, што ж важней за здароўе нацыі, ужо і так надоўга пашкоджанае чарнобыльскай радыяцыяй? Праз стыцярныя бальніцы "незабруджанай" Гродзенскай вобласці праходзіць 27 працэнтаў яе насельніцтва ўсіх узростаў. У ахове здароўя і так, як гаворыцца, праблема на праблеме.



Навошта ж ускладняць становішча? А тут толькі за 1995 год 15 тысяч чалавек на Беларусі памерла ад хвароб, фактарам рызыкі для якіх з'яўляецца курэнне. Па даных Беларускага навукова-даследчага інстытута кардыялогіі, інфаркт міякарда ў мужчын, што кураць, здараецца ў 1,8 раза часцей, чым ва ўсіх астатніх. Навошта яшчэ нашым малакроўным, бледным падлеткам, якія вырaслі ў загазаваных гарадах пры пастаянным недахопе вітамінаў, цыгарэтны дым? Ужо даўно не сакрэт, што прызыўнікі ў армію не вытрымліваюць аніякіх крытэрыяў па ўзроўню фізічнай падрыхтоўкі.

Але жыць прыгожа хочацца ўсім, асабліва моладзі. І хіба ж іх віна, што з усіх атрыбутаў гэтага прыгожага жыцця для большасці беларускіх хлопцаў і дзяўчат дасягальны толькі пачак замежных цыгарэт з папулярнай гучнай назвай! Увогуле падобнае становішча характэрнае не толькі для Беларусі. Як ужо прызнана на міжнародным узроўні, краіны трэцяга свету і былога СССР сталі галоўным аб'ектам экспансіі магутнейшых сусветных тытунёвых кампаній. Так, напрыклад, у Беларусі тэндэр на пастаўку сваёй прадукцыі выйграла "Філіп Морыс". Для падобных гігантаў з іх велізарнымі аб'ёмамі вытворчасці мы і нам падобныя — сапраўднае выратаванне. Бо не проста актыўная, але літаральна жорсткая антынікацінавая скіраванасць заходнееўрапейскіх краін і асабліва Злучаных Штатаў Амерыкі ўжо рэальна пагражае іх дабрабыту. Адно тое, што, напрыклад, "Rotmans" вымушана распрацаваць дванаццаць тыпаў папераджальных надпісаў для сваіх цыгарэт аб шкоднасці курэння, сведчыць пра многае. Дарэчы, і па памерах такі надпіс павінен займаць прыкладна трэць вокладкі пачка з абодвух бакоў.

Урэшце, сацыяльная неўладкаванасць, беднасць, як і перасыць з'яўляюцца тымі полюсамі, да якіх прыцягваюцца алкаголь, тытунь, наркотыкі. Стабільны, якасны ўзровень жыцця, падмацаваны эфектыўным заканадаўствам — лепшае лякарства ад усіх гэтых хвароб-заганаў. Але калі толькі сядзець і чакаць, пакуль беларусы зажывуць шчасліва і заможна, ці не страцім і апошняга з іх. Варта ўзгадаць, што сёння ў нашай краіне амаль самы танны прадукт — гарэлка, яна ў два разы дзешавей, чым сярэдняе вінаграднае віно. Якасныя напоі ўвогуле сярэднестатыстычнаму грамадзяніну не па кішэні. А сапраўдны выбух СНІДу ў невялікім беларускім гарадку Светлагорску? Пры расследаванні здарэння дадаткова выявілася яшчэ адна жахлівая акалічнасць — у мясцовым маладзёжным асяродку шырока распаўсюдзілася наркаманія. Ратавацца трэба не заўтра, ратавацца трэба сёння, бо ўчора ўжо прапушчана.

Аляксандр Піменаў — прадстаўнік Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (ВОЗ) на Беларусі. Яго меркаванне адназначнае: "Тытунь выходзіць у лідэры па забойствах". Там, дзе ўрады гэта ўсвядомілі, можна чакаць станоўчых зрухаў. Возьмем, напрыклад, суседзяў Беларусі. У Польшчы ў 1995 годзе "Акт аб кантролі над тытунем і абароне здароўя" быў прыняты ў парламенце большасцю ў 90 працэнтаў галасоў. Яго падпісаў прэзідэнт краіны, і сёлета ў маі ён уступіў у сілу. Таксама на пачатку 90-х гадоў урад Літвы абвясціў сябе вольным ад тытунёвага дыму.

ВОЗ ужо мае даволі поўную інфармацыю, звязаную са станам курэння тытуню ў Беларусі. Зараз матэрыялы апрацоўваюцца, пасля чаго мы атрымаем адпаведныя рэкамендацыі кваліфікаваных міжнародных экспертаў. Сам Аляксандр Піменаў лічыць, што антынікацінавыя мерапрыемствы павінны насіць катэгарычны, суровы характар:

— Непасрэдна мерапрыемствы па барацьбе з курэннем у праграме ВОЗ на Беларусі пакуль не стаяць. Але гандляроў тытунём асабіста я называю гандлярамі смерцю. Трэба прымаць самыя рашучыя меры. Якія? Розныя. Амаль ва ўсіх краінах цана тытуню і алкаголю вельмі высокая. Сярод іншага яшчэ і таму, што ў кошце гэтай атруты ўжо ўлічваюцца сродкі, патрэбныя на лячэнне. Дарэчы, існуюць разлікі: павышэнне цаны курава на 10 працэнтаў змяншае колькасць курыльшчыкаў на 5 працэнтаў. Прынамсі, сярод дзяцей і падлеткаў.

Мяркую, не лішнія і пэўныя "рэпрэсіўныя" меры. Я маю на ўвазе сітуацыю, калі міліцыя стане не проста "ганяць" старых, што прапануюць кантрабандныя цыгарэты ў пераходах (менавіта гэтыя людзі заўсёды робяцца крайнімі ў антытытунёвай барацьбе), а больш шырокі спектр дзеянняў, стрыжнем якіх зробіцца недапушчэнне курэння ў грамадскіх месцах. І гэта будзе справядліва: чаму нехта павінен глытаць чыйсьці тытунёвы дым і такім чынам набываць самыя страшныя хваробы? Напрыклад, у ЗША першы ж паліцэйскі выпіша штраф за курэнне на вуліцы, незалежна ад таго, хто перад ім — беспрацоўны эмігрант ці рэспектабельны сенатар. Акрамя таго, там жа практыкуецца эфектыўная сістэма матэрыяльнага заахвочвання людзей, якія не кураць. Яны атрымліваюць больш высокую зарплату, адпачынак у лепшы час. А для курцоў наадварот — павышаецца кошт медыцынскай страхоўкі.

Зразумела, я назваў толькі некаторыя моманты. А ўвогуле, добры вынік атрымаецца толькі тады, калі барацьба з курэннем стане часткай агульнадзяржаўнай палітыкі. І тут, лічу, павінны прыкласці свае намаганні, у першую чаргу, нашы заканатворцы. Міністэрства аховы здароўя акажа экспертную дапамогу. Асобнымі наскокамі нічога не даб'ешся: тытунёвая вытворчасць і гандаль — крыніца шалёнага ўзбагачэння, таму лёгкай перамогі чакаць не прыходзіцца.

Няма чаго хаваць, канешне, Беларусь — краіна небагатая і знаходзіцца далёка ад еўрапейскіх лідэраў. Але паважаць сябе трэба заўсёды, нават і ў беднасці. Паважаць і дбаць пра будучыню, якая павінна быць светлай, а не закопчанай непраходнымі клубамі цыгарэтнага смогу. І тады нашы маладыя грамадзяне скажуць: "Я не куру, бо так прынята..."

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## САМЫ МАЛАДЫ ГОРАД







**Самаму маладому гораду Беларусі Светлагорску няма яшчэ і сарака. Ён абавязаны сваім нараджэннем узнікненню вытворчага аб'яднання "Хімвалакно". Сярэдні ўзрост 75 тысяч яго жыхароў не перавышае трыццаці гадоў. У Светлагорску ёсць цудоўныя мікраёны, размешчаныя ў сасновым бары, для гараджан пабудаваны розныя цэнтры культурнага адпачынку.**

**НА ЗДЫМКАХ: горад Светлагорск; Дом культуры энергетыкаў; любяць прыходзіць на набярэжную Бярэзіны муж і жонка Анжэла і Віктар ПЯКУРЫНЫ.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## *НАТАТКІ ЎЛЮБЁНАГА ТУРЫСТА*

# ЗАЧАРАВАННЕ НАРАЧЫ

**Калі паляна на мысе не будзе занята, вы зможаце атрымаць асалоду ад непаўторнага захаду сонца. А яшчэ гэтыя мясціны шчодрыя на грыбы, ягады і... біяэнергетыку.**

**Далей Вілія цячэ з тым жа ўхілам, што і Нарачанка, але падзенне вады адбываецца нераўнамерна. Рака капрызная, доўгія водмелі, цяжкапраходныя нават для байдаркі, змяняюцца каварнымі быстракамі і перакатамі. Некаторыя з іх падобны на невялікія парогі з падводнымі камянямі. Асабліва каварныя перакаты ніжэй вёскі Данюшава.**

**На Віліі, за Жодзішкамі, на левым беразе прыцягвае ўвагу помнік са статуэткай смуткуючай жанчыны. Аб гэтым помніку і недалёкай каплічцы мясцовыя жыхары расказалі такую быль. На пачатку стагоддзя тут стаяў хутар, у якім жыла маці з дзевяццю сынамі. Аднойчы ноччу да іх уварваліся разбойнікі. Яныназдзекаваліся над маці і забілі ўсіх сыноў. У памяць аб сваіх дзецях яна паставіла на беразе праз кожны кіламетр дзевяць разных дубовых слупоў, а насупраць дома — смуткуючую Марыю. Праз год з-пад фундамента помніка пачала біць крыніца. Гэтую ваду жыхары навакольных вёсак лічаць лекавай, а само месца — святым. Дарэчы, калі давялося рыхтаваць карту "Па Нарачанскім краі", доўга пераконваў картографаў, што помнік, каплічка і брама сапраўды існуюць, хаця і не значацца ні ў каталогах, ні ў даведачнай літаратуры. Прынасіў слайды, фатаграфіі, а мне ў адказ паказвалі карты, на якіх гэтыя аб'екты не зафіксаваны. Я настойваў, прымусіў падняць з архіва ўсе існуючыя карты, і на адной з іх усё ж такі знайшліся пацвярджэнні факту, відавочныя для мяне. Гэта дазволіла нанесці на карту помнік, паўз які кожны год праплываюць сотні турыстаў.**

**Не лянуйцеся выйсці на бераг, хоць месца і не вельмі зручнае для прычальвання. Папіце з крыніцы вады і прайдзіце паўкіламетра ўлева ад дарогі да каплічкі, якую, мяркуючы па надпісу, пабудавалі ў 1934 годзе ў памяць аб Марыі гаспадар тутэйшых зямель. Каплічка незвычайная для нашых мясцін, і як ні дзіўна, дастаткова добра захавалася, прычым нікім не ахоўваецца.**

**Ніжэй па Віліі можна зрабіць экскурсію ў пасёлак Залессе, размешчаны за два кіламетры ад ракі.**

**У свой час Залессе было адным з самых паэтычных куткоў Беларусі. Тут каля дваццаці гадоў жыў і працаваў вядомы ўсяму свету кампазітар, таленавіты дыпламат і асветнік Міхал Клеафас Агінскі. Сюды ён прыехаў у 1802 годзе пасля працяглай эміграцыі, і з яго прыездам у Залессі пачаў панаваць культ музыкі, літаратуры, жывапісу. Сябры называлі Залессе "Паўночнымі Афінамі".**

**Большая частка музычнай спадчыны Агінскага створана менавіта тут. У тым ліку вядомы лямінорны паланез "Развітанне з Радзімай".**

**Цяпер унікальны помнік XVIII—XIX стагоддзяў рэстаўрыруецца. Некалі тут быў палац у класічным стылі, два паркі — французскі і англійскі, кітайская альтанка, возера з маляўнічым востравам. Праз сістэму каналаў возера злучалася з ракой, утвараючы ў англійскім парку мноства сажалак, па берагах якіх расло шмат экзатычных раслін. Паводле слоў сучаснікаў Агінскага, усё гэта ствarала непаўторны рамантычны настрой.**

**На жаль, час не пашкадаваў Залессе. Ад усяе прыгажосці захаваўся толькі значна перабудаваны палац, фундамент альтанкі, капліца...**

**Перасякаючы мяжу нашай рэспублікі, Вілія мяняе сваю назву. Літоўцы называюць яе Нярысам. Тут мы і развітаемся з Віліяй, каб зноў вярнуцца да берагоў Нарачы.**

* * *

**Пешаходныя падарожжы звычайна пачынаюцца з берагоў Нарачы і працягваюцца ў бок заказніка "Блакітныя азёры". Ёсць некалькі варыянтаў маршрута, але мне больш за ўсё запомнілася дарога цераз вёскі Пронькі, Шэметава, Засвір, Альшэва.**

**Пронькі размешчаны за два кіламетры ад Нарачы. На краі вёскі захавалася памяць пра першую сусветную вайну — нямецкія могілкі. Тут, ля кустоў бэзу, нехк дагнаў мяне пажылы мужчына. Мы разгаварыліся, і вось што ён расказаў.**

**Тры гады ў гэтых мясцінах стаяў фронт. У Чэрэмшыцах былі рускія, а ў Занарачы, Пронькaх — немцы. Жыхароў прыфрантавой зоны выселілі, і яны не ведаюць, як праходзілі баі, але сляды вайны захаваліся да нашых дзён. Гэта рэшткі дзотаў на заходнім беразе Нарачы, акопы, драцяныя загароды на дне возера, якія ўстанаўліваліся на лёдзе ўздоўж берага. Ужо пасля Вялікай Айчыннай вайны мой субяседнік з бацькам ездзілі на возера і даставалі дрот баграмі. А нямецкіх могілак адразу было шмат, толькі ў наваколлях іх вёскі больш як пяць. Калі прыйшлі палякі, немцы плацілі ім за зямлю, на якой знаходзіліся могілкі. У 1939 годзе, перад самай вайной, усе захаванні перанеслі ў адно, бліжэй да вёскі. Ён гэта добра памятае. Мужыкі на падводах звозілі скрыні з касцямі. На ўскрыцці прысутнічалі прадстаўнікі з Германіі. Яны сачылі за перазахаваннямі і заадно збіралі золата, што было ў загінуўшых. Помнікі ўстанавілі з разнога каменя, абнеслі прыгожай агароджай. Праўда, захоўваліся могілкі нядоўга. Першымі іх пачалі рушыць партызаны. Вяртаючыся з заданняў, яны з кулямётаў і аўтаматаў расстрэльвалі помнікі. Больш за ўсё дасталася арлу, які быў устаноўлены на мануменце ля ўваходу. Але і пасля гэтага нямецкія пахаванні выглядаюць значна лепш, чым нашы, айчынныя. У той час, калі нават у Венгрыі рускія могілкі 1915 года аднаўляюцца на сродкі мясцовых улад, на нашых могілках узгорачкі раўняюць з зямлёй.**

**А вось што пра "Нарачанскую аперацыю", адну з буйнейшых у час першай сусветнай вайны, піша В. Пікуль у "Маазундзе": "Вясной 1916 года немцы атакавалі Вердэн (у выпадку яго захопу дарога на Парыж была б адкрыта), Францыя папрасіла Расію аб дапамозе. Па бездарожжы рускія салдаты пайшлі на немцаў ля возера Нарач. Узялі 10 вёрст. Кожная вярста каштавала 7 800 жыццяў. Гэта цана Вердэна для Расіі. Гэтыя жыцці, як тады казалі, патанулі ў нарачанскіх балотах..." Непадрыхтаванае наступленне пачалося 18 сакавіка 1916 года пад камандаваннем генерала Аляксея Ермалаевіча Эверта, галоўнакамандуючага Заходнім фронтам. У холад, з залітых вадой зямлянак і траншэй, пад моцным кулямётным агнём рускія войскі ўзняліся ў атаку. Нямецкая абарона налічвала тры лініі, была добра ўмацавана і прадумана. Немцы, адбіваючы наступленне, і рускія войскі ў атаках выкарыстоўвалі атрутныя газы. За адзін толькі гэты дзень загінула 14 783 салдаты і 199 афіцэраў.**

**Як кур'ёз апісваюць гісторыкі бітву, што разгарэлася тут за няззначную вышыню з дзіўнай назвай "Фердынандаў нос" (у гонар Фердынанда І Кобургскага, стаўленіка Германіі ў Балгарыі, з 1908 па 1918 цара Балгарыі). Назву гэтую далі ўзгорку на Нарачанска-Вілейскай нізіне гумарысты афіцэры-тапографы рускай арміі. На штабной карце вышыня "Фердынандаў нос" выдзялялася. Гэты "нос" высоўваўся сярод усіх лічбавых вышынь. Яго, на думку Мікалая II, трэба было ўзяць. Любой цаной, толькі б пасарамаціць балгарскага манарха з яго носам, хоць у нарачанскіх краях. І вышыню ўзялі. Цаной жыцця сібірскіх стралкоў. Гэтыя дзесяць квадратных вёрст паміж прынарачанскімі вёскамі Мокрыца—Занарач—Стахоўцы сталі брацкай магілай для сотні тысяч сыноў Расіі і дзесяткаў тысяч сыноў еўрапейскіх народаў, якія не па сваёй волі прыйшлі да нас са зброяй у руках. А потым гэтую "вышыню" атакоўвалі па загаду кайзера Вільгельма II нямецкія войскі. Вядомая нават дата ўзяцця "Фердынандава носу" — 28 красавіка 1916 года. Страты — па пятнаццаць тысяч з абодвух бакоў.**

**Не ведаю, ці выпадкова абраны ваколіцы Стахоўцаў пад будаўніцтва вёскі нямецкімі валанцёрамі для жыхароў раёнаў, якія пацярпелі ад Чарнобыльскай аварыі, але ў гэтай справе куды больш сэнсу і карысці, чым ваяваць за "Фердынандаў нос".**

* * *





**Паміж вёскамі Карабані і Сідаравічы захаваліся рэшткі панскай сядзібы XIX стагоддзя. Яны не значацца ні ў якіх даведніках і краязнаўчых апісаннях. У час вайны сядзібу моцна пашкодзілі.**

**Юрый АКУДОВІЧ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 29—31.**

# ГОДНА НЁС ЗВАННЕ БЕЛАРУСА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

пачаў друкаваць з 1918 года ў газетах "Вольная Беларусь", "Беларусь".

Максім Гарэцкі пісаў пра Антося Галіну, што гэта "вельмі спадзейны малады белетрыст і паважаны публіцыст". І вядома ж, каб лёс склаўся па-іншаму, каб не пайшоў ён у выгнанне, відаць мела б беларуская літаратура выдатнага празаіка, самабытнага майстра мастацкага слова, бо ўжо па гэтых ранніх творах можна было меркаваць, які цікавы, глыбокі талент быў дадзены ад прыроды гэтаму чалавеку. Што ж, так ужо павялося на Беларусі, якой на працягу апошніх двух стагоддзяў не валодалі самі беларусы: Бацькаўшчына не аберагала свае таленты, а тыя, хто кіраваў паўночна-заходнім краем Расіі, не лічылі нават, што яны на Беларусі ёсць, што ёсць тут свая гісторыя, мова, высокая культура.

Усе гэтыя думкі гучалі на вечарыне Міхася Міцкевіча, якую вяла ўнучка Якуба Коласа Марыя Міцкевіч. Выступалі перад перапоўненай залай многія вядомыя навукоўцы, паэты, госці з далёкага замежжа. Прафесар Адам Мальдзіс адзначыў, што імя пісьменніка Міхася Міцкевіча ўведзена ў 6-томны энцыклапедычны слоўнік "Беларускія пісьменнікі", цяпер у Скарынінскім цэнтры рыхтуецца зборнік яго твораў (укладанне і падрыхтоўка тэкстаў Марыі Міцкевіч). "Трэба цвёрда прызнаць, што існуе пісьменнік Міхась Міцкевіч, як яшчэ адно сведчанне геніяльнасці роду Міцкевічаў з Мікалаеўшчыны. З іх і Лёсікі, з магутнага адгаліновання, і Адам Міцкевіч. І нездарма Антось Галіна ўзяў сабе такі псеўданім — бо ён з моцнага дрэва Міцкевічаў — Лёсікаў. Дарэчы, трэба збіраць архіў Язэпа Лёсіка, трэба ўстанавіць мемарыяльную дошку на будынку Скарынінскага цэнтра, былым Інбелкульце, дзе Лёсік некалі працаваў. Добра, што вяртаюцца ў нашу гісторыю і культуру імёны слаўных сыноў Беларусі і што мы сёння ўшаноўваем памяць Міхася Міцкевіча — аднаго з таленавітых прадстаўнікоў знакамітага беларускага роду..."

З цікавымі паведамленнямі пра Міцкевічаў, Лёсікаў выступіў Сымон Белы, вядомы даследчык творчасці Якуба Коласа і Міхася Міцкевіча (дарэчы, іх пляменнік). Ён першы пачаў грунтоўна пісаць пра Антося Галіну, яго матэрыялы ўжо публікаваліся ў "Голасе Радзімы". Дарэчы, ён устанавіў дакладна, што ў савецкія часы нідзе і ніколі ў друку не згадвалася імя Міхася Міцкевіча. Ды і наогул былі забаронены імёны беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў, кампазітараў, спевакоў, вучоных, якія вымушаны былі пакінуць радзіму. Усе яны без разбору лічыліся калабарантамі, хоць на самай справе большасць з іх служылі нацыянальнай ідэі, спавядалі незалежнасць Бацькаўшчыны.

З вялікай цікавасцю і ўвагай прысутныя слухалі выступленне Міхася Міцкевіча — малодшага сына Якуба Коласа, які падзяліўся сваімі ўспамінамі пра бацьку і дзядзьку Міхася, і асабліва падкрэсліў, што яны абодва, як педагогі, надавалі вялікае значэнне нацыянальнаму выхаванню падрастаючага пакалення, асабліва матчынай мове, бо адбарадь мову — значыць спыніць развіццё нацыі, народа, пазбавіць яго гістарычнай памяці, нацыянальнай годнасці і свядомасці. Вось уж сапраўды, як сказаў рускі паэт, "проклятье и презренье всем, унизившим родной язык".

Чыталі свае вершы, прысвечаныя Антосю Галіне, Сымон Белы, (верш "Антось Галіна"), вядомы паэт Яўген Хвалей. Ён таксама зямляк Якуба Коласа і Міхася Міцкевіча, сябраваў з іх сваякамі і знаёмымі, часта сустракаўся з дзядзькам Юзікам, што жыў у Смольні, але як чалавек маладзейшага пакалення, нават не ведаў, што малодшы з братоў Міцкевічаў ёсць і жыве ў Амерыцы. Я. Хвалея вельмі кранула вестка пра смерць Міхася Міцкевіча на чужыне і ён прысвяціў яго памяці верш, які ўвайшоў у зборнік паэта "Прыстань віціна".

Незвычайна моцнае ўражанне засталося ад твораў самога Антося Галіны, урыўкаў з перапіскі Якуба Коласа з малодшым братам, якія натхнёна чытаў артыст Купалаўскага тэатра Павел Дубашынскі. У выкананні Вячаслава Статкевіча (саліста ансамбля "Свята") кранальна прагучалі народныя песні, якія не раз чулі, відаць, у ваколіцах Мікалаеўшчыны браты Міцкевічы.

Пра перакладчыцкі бок дзейнасці Антося Галіны (а ён перакладаў на беларускую мову ў асноўным рэлігійныя тэксты) расказаў айцец Сяргей Гардун, адзначыўшы, што пераклад "Евангелля" мае свае адметнасці, зроблены на высокім узроўні. У апошнія гады жыцця Міхась Міцкевіч, прадчуваючы блізкі канец, пераклаў "Акафіст за ўпакой памерлых" (1985). Айцец Сяргей прачытаў некралог, змешчаны ў газеце "Голас царквы", і ўрыўкі з "Акафіста"... ў перакладзе Міхася Міцкевіча, і прысутныя адчулі думкі і пачуцці нашага земляка, яго хрысціянскую душу — усё тое, чым ён жыў далёка ад роднай зямлі, сумуючы па Бацькаўшчыне і блізкіх людзях.

У выступленнях гасцей — Гая Пікарды з Лондана (нястомнага збіральніка беларускай песеннай творчасці і наогул прапагандыста беларускага мастацтва, чалавека еўрапейскай адукацыі, які, валодаючы роднай французскай, англійскай, нямецкай, італьянскай мовамі, вывучыў і выдатна валодае беларускай мовай), а таксама прафесара Янкі Запрудніка з Нью-Йорка прагучала даніна высокай павагі і пашаны да Міхася Міцкевіча — слыннага сына беларускага народа. Спадар Янка Запруднік расказаў пра сустрэчы і супрацоўніцтва з Міхасём Міцкевічам, якога ўпершыню сустрэў у Рэгенсбургу ў Нямеччыне, а пасля шмат разоў сустракаўся з ім у Нью-Йорку, у Брукліне, дзе жыў Антось Галіна. Янка Запруднік гаварыў пра яго як пра актыўнага грамадскага дзеяча, настаўніка, журналіста, перакладчыка, пісьменніка, рэдактара і асабліва адзначыў яго выдатнае адчуванне роднай мовы, нястомную, паўсядзённую працавітасць Міхася Міцкевіча, які не цураўся ніякай работы. Апошнія гады жыцця ён жыў у свайго пляменніка Алеся Міцкевіча, такога ж працавітага, выдатнага прадстаўніка Міцкевічавага роду, які шмат гадоў актыўна працаваў у Беларуска-амерыканскім задзіночанні.

Вялікае жыццё пражыў Міхась Міцкевіч — фізічна добра трымаўся, працаваў да апошняга, меў выдатную памяць. Будуць і ўсе свядомыя беларусы памятаць Міхася Міцкевіча, і не толькі таму, што ён брат Якуба Коласа, але і таму, што гэта Асоба, талент, які ўсё сваё жыццё годна нёс званне беларуса.

Да 100-годдзя з дня нараджэння Міхася Міцкевіча была прымеркавана таксама невялікая выстаўка яго твораў, матэрыялаў і літаратуры пра жыццё і творчасць пісьменніка.

**Лідзія САВІК.**

АДНАЎЛЕННЕ ХРАМА



**Свята-Узнясенская царква ў Петрыкаве была пабудавана ў 1870 годзе. Многае перанёс храм за гэтыя гады. Пры савецкай уладзе ў будынку размяшчаліся і склад для хімікатаў, і піўны бар, і кафэ "Марожанае", і электрычная падстанцыя. Але вось у 1992 годзе прыехаў у Петрыкаў правіць службу айцец Васілій і архітэктурны помнік мінулага стагоддзя пачалі грунтоўна рэстаўрыраваць. Ужо выкананы вялікія работы па аднаўленню інтэр'ера будынка. Цяпер абнаўляюцца купалы храма.**

**НА ЗДЫМКУ: Свята-Узнясенская царква ў Петрыкаве.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

*ПАСЛЯ ПАДЗЕІ*

# ШЛЯХ ДА ЎЗАЕМНАСЦІ

"Шлях да ўзаемнасці" — пад такой назвай ужо пяты раз у польскім мястэчку Белавежа, што прывольна раскінулася на вялікай паляне сярод гушчароў старажытнай пушчы, адбылася сустрэча навукоўцаў Польшчы і Беларусі. Арганізавалі яе Беларуска-грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы з сядзібай у Беластоку (старшыня Ян Сычэўскі) і Польскае таварыства беларусістыкі ў Варшаве (старшыня прафесар Аляксандр Баршчэўскі). І, варта зазначыць, канферэнцыя гэта выклікала немалы інтарэс. Чынны ўдзел у яе рабоце прынялі не толькі вядомыя навукоўцы з Польшчы — з Варшавы, Беластока, Любліна, Познані, Вроцлава, Аполе, але і госці з Беларусі — з Мінска, Гродна, Брэста.

Як зазначыў у сваім выступленні на канферэнцыі міністр культуры і мастацтва Польшчы Міхал Ягела, на патрэбы развіцця культур нацыянальных меншасцей краіны толькі ў гэтым годзе польскім урадам выдаткаваны 3 мільёны 230 тысяч злотых, што складае па курсу адзін мільён долараў ЗША. Цікавасць выклікала выступленне дырэктара Дэпартамента кнігі Рэспублікі Польшча доктара Клюкоўскага, які, характарызуючы сучасны стан кнігавыдавецкай справы ў краіне зазначыў, што ва ўсё большай ступені яго вызначае дзейнасць менавіта прыватных выдавецтваў, агульны лік якіх дасягнуў ужо амаль трох тысяч. Істотна ўзрасла ў 90-я гады колькасць выданняў перакладной мастацкай літаратуры. Калі ў 1991 годзе яе было выдадзена ўсяго 80 найменняў, дык у 1993 годзе — ужо 1 400 назваў, а ў 1996 годзе — 1 126 твораў замежнай мастацкай літаратуры ў перакладзе на польскую мову. Маё пытанне аб месцы, якое сярод гэтых выданняў займаюць пераклады з беларускай мовы, аказалася не зусім пажаданым для дакладчыка. І нездарма, бо, як высветлілася, з 1 126 вышэйпамянёных перакладных мастацкіх твораў, што ўбачылі свет у выдавецтвах Польшчы ў мінулым годзе, **толькі два** (!) прыпадаюць на пераклады з беларускай мовы. Няцяжка падлічыць, што гэта складае менш за 0,2 працэнта ад агульнага ліку перакладной мастацкай літаратуры, што выдаецца ў Польшчы, і не ідзе ані ў якое параўнанне з колькасцю твораў польскіх пісьменнікаў, што перакладаюцца і выдаюцца штогод у Рэспубліцы Беларусь. Дарэчы, на думку дырэктара Дэпартамента кнігі, роля друкаванага слова ў жыцці польскага грамадства будзе з кожным годам змяншацца. Галоўная прычына гэтага караніцца ў распаўсюджанні сучаснай аўдыятэхнікі. На аўдыякасеты ў перакладзе на польскую мову і ў выкананні вядомых майстроў мастацкага слова запісваюцца ўсё новыя і новыя творы еўрапейскай літаратурнай класікі: раманы Г. Мана, "Фауст" І. В. Гёте і інш. І ўсё больш спажыўцоў мастацкай літаратуры аддаюць перавагу праслухоўванню адпаведных аўдыякасет, а не кнізе.

Цікавасць выклікаў даклад Лешака Беднарчука "Моўны воблік Вялікага Княства Літоўскага", які быў прачытаны вядомым польскім навукоўцам на беларускай мове. Прафесар філіяла Варшаўскага універсітэта ў г. Беластоку Антон Міранові звярнуўся да складаных старонак узаемаадносін праваслаўя і уніяцкай царквы на землях Рэчы Паспалітай. Навуковец з універсітэта ў г. Аполе Томаш Велг прысвяціў сваё даследаванне творчай спадчыне Васіля Быкава, а Міхал Саевіч з Любліна акцэнтаваў увагу прысутных на асаблівасцях купальскага абраду на Беларусі. Цікавасць выклікаў даклад доктара Рышарда Радзіка з Люблінскага універсітэта М. Складоўскай-Кюры "Стэрэатып паляка ў сучасным беларускім грамадстве" і рэферат Ніны Баршчэўскай з Варшавы, якая прааналізавала змест лістоў, што дасылаюць слухачы з Рэспублікі Беларусь у Беларускую рэдакцыю Польскага радыё. Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку прафесар Міхаіл Слямнёў апавядаў аб перспектывах беларуска-польскага супрацоўніцтва ў галіне культуры, першы намеснік старшыні Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі Іван Яновіч — аб забеспячэнні патрэб беларускай дыяспары ў Польшчы, а аўтар гэтых радкоў прысвяціў сваё выступленне праблемам нацыянальнай адукацыі ў рэгіёне беларуска-польскага памежжа.

Але праграма польска-беларускай сустрэчы ў Белавежы не вычэрпвалася навуковымі дыскусіямі. Не менш значнай падзеяй з'явілася свята беларускай песні, якое адбылося напярэдадні Купалля. 26 беларускіх фальклорных калектываў з усіх куткоў Беласточчыны і з Пружанскага раёна Беларусі прымалі ў ім удзел. А пасля святочнага канцэрта, калі на зямлю апусцілася купальская ноч, па хвалях Наракі няспешна паплылі вянкі, сплеценыя з лясных белавежскіх кветак...

**Сяргей ЯЦКЕВІЧ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар**

# Наталля АРСЕННЕВА

Сумная вестка прыляцела з-за акіяна: 25 ліпеня адышла ў вечнасць Наталля Арсеннева — адна з самых таленавітых паэтэс XX стагоддзя. Яе паэзія, вытокі якой пачынаюцца з чыстых крыніц красы і любові да Беларусі, пазбаўленая ўсялякай палітычнай афарбоўкі, ідэалагічнай напластаванасці, прасякнута тым не менш адной ідэяй — ідэяй нацыянальнага адраджэння, уваскрасення Бацькаўшчыны — Беларусі — адвечнага ў Сузор'і Сусвету Зьніча, які не павінен знікнуць ніколі. У яе творчасці праявілася адметная індывідуальнасць выдатнага мастака слова з эстэтычна-вытанчаным густам, філасофскім бачаннем жыцця, прыроды, сусвету і чалавека ў ім. У вершах Наталлі Арсеннявай адлюстраваўся своеасаблівы лад беларускай паэзіі, яе арыстакратызм, характэрнае для беларусаў светапоглядное адчуванне, як аснова духоўнай існасці нашай сучасніцы, жанчыны-творцы.

Некалі, у раннюю пару сваёй творчасці, у вершы, прысвечаным любімаму гораду ("Вечар у Вільні"), яна пісала:

**Манюся тут сваю апошнюю**
**зару**
**Я сустракаць,**
**адсюль —**
**пайсьці адвечным шляхам...**

Але сваю апошнюю зару яна сустрэла далёка ад Бацькаўшчыны, у амерыканскім горадзе Рачэстэры, двух месяцаў не дажыўшы да 94 гадоў.

Чаму Беларусь стала для яе (рускай па паходжанню, з арыстакратычнага роду Арсенневых, які па жаночай лініі даў славутага паэта Лермантава) адзінай Бацькаўшчынай, хоць нарадзілася яна ў Баку, жыла ў Расіі, Польшчы, Нямеччыне, апошнія 50 гадоў у Амерыцы? (Свой жыццёвы шлях паэтэса вызначыла трапнай метафарай "Між берагамі"). Можа таму, што яе дзяцінства і юнацтва прайшлі ў 20—30-я гады ў Вільні — горадзе, асвечаным высокай беларускай духоўнасцю, звязаным з імёнамі нашых выдатных дзеячаў — М. Багдановіча, братоў Луцкевічаў, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Гарэцкага, К. Буйло, У. Жылкі, М. Танка, дзе ў беларускіх выданнях друкаваліся і яе першыя вершы — узнёслыя оды красе беларускай прыроды, асабліва залатой восені. А можа таму, што захапілася Наталля Арсеннева самаахвярнасцю беларусаў-адраджэнцаў, якія бескарысліва і аддана змагаліся за нацыянальную незалежнасць, палюбіла нашу "залатую, спеўную, выкутую з золата" мову, якая стала такой зразумелай, сугучнай яе душы і толькі па-беларуску (валодаючы дасканала англійскай, французскай, нямецкай, рускай мовамі) пісала яна свае вершы?

Зведаўшы сталінскі ГУЛАГ, перажыўшы вайну ў акупіраваным Мінску, яна не спыніла свайго творчага гарэння, а, наадварот, стварыла сапраўдныя шэдэўры паэтычнага мастацтва, прасякнутыя тымі праблемамі, якія востра паўсталі і цяпер, не кажучы пра Арсенневу, як пра паэта чыстай красы. І сёння, над яе магілай, хочацца гаварыць словамі самой паэтэсы, каб мы адчулі іх вечнасць, зразумелі, як раздавала яна сваё сэрца ў песнях. "О, шыпшына, мая Беларусь, маё шчасце й пакута!" "О, Беларусь, О Беларусь мая! Імя Тваё — такі пякучы сымбаль болю! Ды шчыра ўсьцяж яго багаслаўляю я: і з ім я — чалавек, у долю і ў нядолю..."

Чыё беларускае сэрца не кранае яе малітва за Беларусь "Магутны Божа", высокапатрыятычныя вершы, стаўшыя песнямі: "Песня каліноўцаў", "У гушчарах", "Беларусь, наша маці-краіна", "Сакавік", "На выгнанні", "Родны край", "Калыханка", "Мроя", "Вясновы вечар", "Асенняя песня"? І ці не да нас, сённяшніх яна звярталася са справядлівым папрокам і заклікам змыць вечную пакору, не здраджваць нашай слаўнай Крывіцкай Пагоні, пастаяць за айчыну супраць чорнае моцы?

**Досыць падаць прад кожным**
**ніцма.**
**Лепш на момант**
**агнём успыхнуць,**
**чымся літасьцяй век давіцца!**
**Што далі нам калі чужыя!..**

І ці не нас яна клікала да спраў,



дзеля ўваскрасення Бацькаўшчыны-Беларусі?

**Не словаў трэба,**
**а хаценняў,**
**і сіл асілкавых, і згоды,**
**і гарту ўпартага,**
**каб сьцені**
**на шлях ня палі перашкодай.**
**Нат больш...**
**Каб справы не скалечыць,**
**каб не праспаць узноў**
**світаньня**
**высілкаў трэ нечалавечых,**
**і процьмы цёплага кахання.**
**Тады...**
**Тады мы звяз сталёвы**
**з блакітнай Бацькаўшчыны**
**зьвяжам,**
**і раз нарэшце моцным словам**
**ня нам,**
**а мы штось сьвету скажам!**

І малілася:

**"Устань жа, устань,**
**ускрэсьні сяньня**
**Мой край,**
**Як уваскрос Хрыстос!**

І ці ні яе вершы натхняюць верай, надзеяй, жыццясцвярджальным пафасам?

**Кожны з нас яшчэ верыць**
**у нешта сьвятое:**
**Хто ў Хрыста,**
**Хто ў Край,**
**а хто — проста ў сябе,**
**і пад вейкамі смагі жыцьцёвай**
**ня ўтоім**
**мы,**
**як нізка ні гнула б нам гора**
**хрыбет.**
**Варта жыць!**
**Варта вечна чагось**
**спадзявацца,**
**чуцца часткай айчыны, малой,**
**а жывой...**

І ці не яе паэтычныя словы пра беларускую мову, сугучныя балючым Багушэвічавым радкам: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі...", завучваем сёння?

**...Гэта мова паэтаў і волатаў,**
**Скарб, які нас трымаў пры**
**жыцьці.**
**Каб ня мова,**
**даўно б мы растаялі,**
**расплыліся імглой між**
**чужых,**
**зьбеглі ў вырай гусінаю**
**стаяю...**
**Але з мовай — і мы будзем**
**жыць...**

Яшчэ задоўга да смерці Наталля Арсеннева пісала:

**Жыцьцё, ня шмат ужо дарогі,**
**Штораз пусьцей, цямней**
**наўкола.**
**Дык дай мне роднага парогу**
**даткнуць, пакуль замкнецца**
**кола!**

Яна вярнулася да нас, дакранулася роднага парога сваімі кнігамі, выдадзенымі ўжо і на Беларусі, сваімі глыбокімі, кранальнымі вершамі, насычанымі такой нязгаснай, непахіснай любоўю да Бацькаўшчыны, як, можа, няма ні ў кога з тых, хто жыве на Беларусі.

**Не цалавала рук**
**нікому я ў жыцьці,**
**Табе ж,**
**мая зямля,**
**Я цалавала б ногі**
**за цішу, за туман,**
**за жаўрукоў, —**
**за ўсё,**
**Чаму я ўжо, відаць,**
**ня выйду напярэймы.**

І яна верыла і нас прымушае верыць, што

**прыйдзе дзень —**
**мы ўспыхнем, як зьнічы.**
**За змагароў, за лёс таптанае**
**Радзімы**
**не паміраць,**
**мы жыць паймкнём**
**у далячынь!..**

Як ні цяжка было выгнанцам-беларусам на чужыне, вера, што гучала ў вершах Арсеннявай, дапамагла выстаяць, згуртавацца, пабудаваць новае жыццё, адчуваць сябе беларусамі.

**Не плачце...**
**Не таму, што сьлёз шкада,**
**Ці шкадаваў іх хто калі дзеля**
**краіны!**
**Але таму, што лёс яе нам зноў**
**аддасьць,**
**тут, на чужыне**
**нас ня кіне.**
**Мы вернемся дамоў!**
**З адкрытай галавой,**
**Із сонцам у душы і песьняю**
**на вуснах...**
**і скажам:**
**"Родны Край,**
**даў Бог, мы зноў з Табой.**
**Дазволь служыць Табе,**
**мы ўсё з пакорай прыймем".**
**І усьміхнуцца нам, аж сэрца**
**забаліць,**
**і усьміхнуцца зноў, аж у**
**грудзёх заколе,**
**Крывіччыны мае блакітныя**
**палі,**
**каханыя ў чужой краіне,**
**як ніколі...**

У савецкія часы імя Наталлі Арсеннявай, як імёны многіх іншых пісьменнікаў-эмігрантаў, было забаронена і да пачатку 90-х гадоў нідзе не ўпаміналася. І сёння, як бы хто ні ставіўся да яе — час усё расставіў і расставіць па сваіх месцах. Імя Наталлі Арсеннявай — Паэта — назаўсёды ўвайшло ў гісторыю беларускай літаратуры і культуры. Яе мудрае, змястоўнае, высокапаэтычнае слова заўсёды будзе жыць, як жыла і будзе жыць Беларусь, услаўленая, абароненая, узвышаная ёю, расіянкай, у несмяротных вершах на беларускай мове.

**Куды цяпер нас павядзеш,**
**ты, наш стары, крывіцкі Коне,**
**ці наша змрочнае сягоньня**
**Йшчэ зьменіш ты на ясны**
**дзень!**
**Ці мы у сіняе сьвітаньне**
**яшчэ ўзьнімем з верай зрок!**
**Ці з пылу крыжавых дарог**
**калі на ногі моцна ўстанем!**

Было нешта сімвалічнае, нейкі знак Лёсу ў тым, што вестка пра смерць Наталлі Арсеннявай прыйшла падчас адкрыцця Другога з'езду беларусаў свету (26 ліпеня), калі адгучаў яе гімн-малітва "Магутны Божа", а праз нейкую гадзіну каля 800 чалавек прысутных у зале, якія сапраўды прадстаўлялі амаль увесь беларускі свет, сталі ў маўклівай жалобе па адышоўшай у вечнасць паэтэсе, якая нібы перадавала ім свой запавет несці далей беларускую ідэю, не спапяляць у грудзях прагу нацыянальнага адраджэння, веры ў тое, што "яна ня зьгіне нават з намі, бо ўсьлед нашчадкі возьмуць сьцяг".

Але ці ўсе нашчадкі чуюць паэтаў-прарокаў?

**Лідзія САВІК.**

# УРОКІ І ЗАПАВЕТЫ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих, — тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають".

Скарынінскія вывады і назіранні ў кожным выпадку былі звязаны з нейкімі біблейскімі падзеямі. Для тагачаснага чытача ўсе яны ўспрымаліся як найбольш праўдзівыя гісторыі. І таму вывады з іх амаль што набывалі сілу закона.

Тое славутае выказванне пра звяроў, птушак, рыб і пчол уяўляе сабою пераасэнсаванне слоў Евангелля ад Матфея: " Лісы маюць норы і птушкі нябесныя гнёзды, а Сын Чалавечы не мае дзе скланіць галаву". У Скарыны яно перарасло ў разгорнуты паэтычны вобраз, напоўнены глыбокім патрыятычным зместам. Любоў да роднага гнязда, да родных вытокаў — тое пачуццё, з якім усё жывое прыходзіць на свет. І тым больш чалавек, як істота разумная. Сам першадрукар пры кожнай аказіі з гонарам падкрэслівае, што ён паходзіць са слаўнага горада Полацка і што ён — Скарынін сын.

Адначасова Скарына паказаў, што ён умее ганарыцца і роднай мовай. Засведчыў ён гэта ў самай першай сваёй прадмове — да Псалтыра: "И видечи таковые пожиткы (карысці — **У. К.**) в так малой книзе, я, Францишек, Скоринин сын с Полоцька, в лекарскых науках доктор, повелел есми Псалтырю тиснути рускыми словами а словенскым языком попред ко чти и к похвале Богу в троици единому и пречистой его матери Марии, и всем небесным чином и святым Божьим, а потом к пожитку посполитого доброго, наболей с тое причины, иже мя милостивый Бог с того языка на свет пустил". Вось з якой пашанай у адным і тым самым сказе Скарына ўспамінае і свайго бацьку, і родны горад, і Бога "в троици единого", і Божую маці Марыю, і ўсіх нябесных чыноў, і сваю родную мову. Усюды бачыцца аднолькавае ўсведамленне асабістай чалавечай годнасці — сапраўднага гонару з-за таго, што ён "у лекарских и вызволеных науках доктор" — і пачуццё яскрава выражанай патрыятычнай гордасці за родны Полацк. А побач з гэтым — і глыбокая павага да іншых гарадоў. "Старое место Празское" таксама ў яго "славное". Тое ж самае гаворыцца і пра "место Виленское".

Так мы пераконваемся, што для нашага першадрукара, які выдаваў кнігі Свяшчэннага пісання, галоўным аказалася пачуццё не рэлігійнае, а тое, што мы сёння назвалі б нацыянальнай прыналежнасцю. У тую эпоху сапраўдны патрыятызм выяўляўся ў барацьбе за сваю мову, якую з цяжкімі намаганнямі трэба было ўводзіць замест ці лацінскай, ці царкоўнаславянскай. Для Францішка Скарыны пытанне аб мове з'явілася адным з галоўных сярод тых, якія яму давялося вырашаць, прыступаючы да здзяйснення сваёй задачы. Ад гэтага ў найбольшай ступені залежала пытанне аб тым, каму яго кнігі будуць адрасавацца.

Дзейнасць Скарыны прыпадае на перыяд, калі адбываўся інтэнсіўны працэс фарміравання беларускай народнасці. І зварот першадрукара да роднай мовы ў прадмовах, пасляслоўях, каментарыях да кніг Свяшчэннага пісання — адна з наглядных праяў гэтага працэсу. Праўда, нашы даследчыкі неаднаразова ставілі пытанне аб тым, у якой ступені можна лічыць беларускай мову Скарыны. Бадай, можна згадзіцца з тым, што мова яго перакладаў у аснове сваёй царкоўнаславянская, але з выразнымі ўплывамі беларускай і іншых моваў. А сам Скарына ў прадмове да Псалтыра пісаў: "Повелел есми Псалтырю тиснути рускыми словами а словенскым языком". "Словенский язык" — гэта тая мова, на якой пашыраліся кнігі Свяшчэннага пісання.

Сам першадрукар усведамляў, што гэта мова, далёкая ад жывой, многім акажацца незразумелай. І ён паклапаціўся аб тым, каб зрабіць тэксты кніг больш даступнымі і недастаткова падрыхтаваным чытачам: "...Положил есми на боцех некоторыи словы для людей простых, не рушаючы самое Псалтыри ни в чем же..." Такія ўдакладненні "на боцех", каментарыі, а таксама прадмовы і пасляслоўі, напісаныя на тагачаснай беларускай мове, рабілі царкоўнаславянскія тэксты біблейскіх кніг зразумелымі і гэтым самым стваралі ўмовы для іх пашырэння.

Наогул галоўныя напрамкі развіцця пісьмовай мовы, яе граматычных норм абумоўлены рэальнымі патрэбамі тых грамадскіх сіл, якія карыстаюцца ёю ў сваёй практычнай дзейнасці. Той сілай, якая на працягу цэлых стагоддзяў захоўвала і аберагала манаполію на духоўнае панаванне ў грамадстве, была царква са сваёй мовай, хоць і славянскай, але вельмі далёкай ад паўсядзённых гутарковых форм — лексічных, фанетычных, марфалагічных, сінтаксічных — ад жывых гаворак усходніх славян. І пакуль царкоўнаславянская мова абслугоўвала толькі рэлігійныя, канфесіянальныя патрэбы грамадства, да той пары яе формы заставаліся нязменнымі, непарушнымі, кананічнымі.

Так без канца працягвацца не магло. І ў эпоху ўтварэння беларускай народнасці з'яўлялася ўсё большая неабходнасць карыстацца пісьмовай мовай і ў іншых галінах грамадскай дзейнасці і ў мастацкай творчасці. Гэта паступова, але непазбежна прыводзіла да таго, што ў мову пісьменнасці пранікала ўсё больш элементаў жывой гутарковай мовы. Францішак Скарына ўсёй сваёй дзейнасцю — перакладчыцкай, пісьменніцкай (прадмовамі, што часта нагадваюць публіцыстычныя творы), друкарскай — даў магутны імпульс працэсу развіцця ўласна беларускай літаратурнай мовы.

Сам Скарына вёў гаворку пра мову як выяўленне свядомасці і маралі чалавека, яго духоўнай сутнасці. Пры гэтым ён нязменна патрабаваў адзінства слова і справы, а таксама сумленнасці ў любой сферы дзейнасці. Скарына пісаў у прадмове да "Паслання Іакава": "Затым не толико словом, але и делом показати веру хрестианскую, к тому обуздовати язык свой, убогыми не гордети (не пагарджаць. — **У. К.**), милостыню недостаточным чинити, вера бо без дел мертва ест". Звернем увагу на адзін сказ яшчэ з гэтай самай крыніцы: "Немногым учителем бывати, но более умети язык свой справовати; от него же все злые и добрые речи походять". Не многім суджана быць настаўнікамі, тымі, што прапаведніцкаму слову надаюць патрэбны грамадскі выскарародны сэнс і ператвараюць тое слова ў жывую дабрачынную справу: "убогыми не гордети", "милостыню недостаточным чинити", "от злога бежати", "друга не оклеветати, ни осужати", "блуднага брата на путь прав навращевати". Вось такая задача сапраўднага настаўніка.

У мове, як паказвае Скарына, раскрываюцца ўзаемаадносіны людзей, а ва ўзаемаадносінах выяўляюцца іх маральныя нормы і характары. Такім вось чынам слова настаўніка павінна станавіцца пуцяводным для кожнага чалавека.

Для самога Скарыны словы "настаўнік" і "доктар" мелі аднолькавы сэнс, і таму ён у сваіх прадмовах ці пасляслоўях слова "доктар", якое заўсёды ставіў перад імем, мог замяніць словам "учитель". Так, напрыклад, у пасляслоўі да кнігі "Эсфір" ён пісаў: "Выложена працею и вытиснена повелением ученого мужа Франциска Скорины из славного града Полоцька, в науках и в лекарстве учителя". Тое ж самае мы знаходзім і ў пасляслоўі да Кгіні Суддзяў.

Мы неаднаразова можам пераконвацца, што Францішак Скарына са Свяшчэннага пісання браў перш за ўсё тое, што ніколі не траціць сваёй актуальнасці, грамадскай значымасці. Ён выбіраў з іх і настойліва рэкамендаваў чытачу тое, што найбольш адпавядала яго ўласным уяўленням аб правах і абавязках чалавека, аб маральных нормах, якімі людзі павінны кіравацца ў жыцці.

Першадрукар непахісна ставіў перад сабою задачу несці людзям праўду аб "нравех добрых": "Наболей о мудрости, о страху господнем, о слове Божием, о справедливости, о вере, о любви, о надежи, о чистоте, о долготерпении, о смирении, о милостыни, о крепости, о трезвости, о мерности, о почтивости, о щедроте, о тихости, о друголюбии, о науце закона Божия, о послушании родителей своих, о справовании самого себе, о товаристве добром и злом, о похвале мужей святых, о славе царей праведных, о достойности пророков Божиих и о иных различных многых добрых обычаех и нравех..."

Францішак Скарына даказваў, што за ўсімі маральнымі нормамі, якія ён абвяшчаў, стаіць воля Божая, а гэта значыць, што яны не могуць парушацца нікім — не толькі "людзьмі паспалітымі", але і тымі, хто мае ўладу. Вось так асветніцкая дзейнасць першадрукара была накіравана не на прапаганду самой па сабе пакорлівасці перад Богам і перад уладамі, свецкімі ці духоўнымі, а на абгрунтаванне цэлай сістэмы найвышэйшых маральных прынцыпаў.

Нам важна падкрэсліць адну асаблівасць. У пачатку XVI стагоддзя Францішак Скарына дазволіў сабе, чалавеку свецкаму, урывацца ў кнігі Свяшчэннага пісання, пакідаць у іх не толькі сваё прозвішча, але і партрэт. У прадмовах ён асвятляў тыя праблемы свайго часу, якія яго хвалявалі як грамадзяніна і патрыёта. На Біблію ён глядзеў скрозь прызму зямных праблем ва ўсёй іх разнастайнасці і супярэчлівасці. Спасылаючыся на "Соборник" цара Саламона і на яго шырокі ахоп жыццёвых спраў, Скарына ўдакладняе: "Понеже в розмаитых речах люди на свете покладают мысли и кохания своя: едины в царствах и в пановании, друзии в богатестве и в скарбох, иннии в мудрости и в науце, а инии в здравии, в красоте и в крепости телесной, неции же во множестве имения и статку, а неции в роскошном ядении и питии и в любодеянии, инии теже в детех, в приятелех, во слугах и во иных различных многых речах. А тако единый каждый человек имать некоторую речь пред собою, в ней же ся наболей кохает и о ней мыслит".

У паасобных мясцінах у сваіх каментарыях Скарына дазваляў сабе перафразіраваць і трансфармаваць кананічныя тэксты, прапускаючы ў іх тое, што стала яўным анахранізмам. Пераказваючы дзесяць запаведзяў, ён ужо не піша пра тое, што нельга жадаць чужога раба ці рабыні. Але свабодныя адносіны да тэксту Бібліі і ў Скарыны маюць свае межы. У Другой кнізе Царстваў расказваецца гісторыя аб тым, як цар Давід з даху свайго палаца пабачыў аднойчы вельмі прыгожую голую жанчыну, якая купалася. Даведаўшыся, што гэта — Вірсавія, жонка яго адданага военачальніка Урыі Хетэяніна, які ў той час ваяваў з ворагамі, Давід, загадаў прывесці яе, спаў з ёю, а калі яна стала цяжарнай, выклікаў Урыю. Але той у свой дом не пайшоў і не начаваў з жонкай. Тады цар Давід паслаў яго на смерць.

Францішак Скарына ў прадмове да Другой кнігі Царстваў замоўчвае гэты эпізод, таксама як і іншыя сцэны жорсткасці, вераломства і вырварства. Прычыны такіх адносін да Свяшчэннага пісання зразумець не надта цяжка. Калі кніга з'яўляецца святой, а ўсё, сказанае ў ёй, павінна лічыцца законам, дык трэба выбіраць і падкрэсліваць тое, што магло натхніць чытача на добрыя ўчынкі, узвысіць яго пачуцці. Такіх месцаў у Бібліі дастаткова. На іх Скарына і засяроджвае сваю ўвагу.

У дзесяці запаведзях, якія калісьці Майсей атрымаў ад самога Бога на гары Сінай, шостая з іх забараняе жадаць чужых жонак. Парушэнне любой запаведзі лічылася найцяжэйшым грэхам. Як з імі абыходзіўся цар Давід, мы ўжо ведаем. А ён заўсёды лічыў сябе прававерным нашчадкам Майсея, з найвялікшай пашанай перавозіў каўчэг Божы, пабудаваны Майсеем, шукаў для яго найбольш ганаровае месца, для чаго ўрачыста перавёз у сталіцу сваёй дзяржавы Ерусалім. А ўсемагутны Бог не пакараў цара за тое злачынства, за парушэнне пятай запаведзі (якая забараняла забіваць кагосьці) і шостай. Так мы пераконваемся, што і ў біблейскія часы існавала адна мараль для пропаведзі і зусім іншая — для тых, хто меў уладу, багацце і высокае месца ў грамадстве.

У сваёй дзейнасці Францішак Скарына не мог не лічыцца з панаваннем такой падвойнай маралі і ў яго час, практычна ўзаконенай ва ўсе гістарычныя эпохі. Як быццам так і быць павінна, спалучаліся найчысцейшыя маральныя прынцыпы, найбольш гуманныя патрабаванні і наказы хрысціянскай веры з небывалымі прыкладамі здрадлівасці, двурушніцтва нават у дзеяннях тых, каму як быццам сам Бог давяраў адказныя місіі.

Непахісна сцвярджалася, што ўсё ідзе ад Бога. Нават свяшчэнная інквізіцыя дзейнічала ў імя Божае. Для Божай славы спальвалі не толькі блудныя трактаты, але і іх аўтараў, розных недаверкаў, ерэтыкаў, ведзьмаў. У рэальным жыцці падвойная мараль панавала і мела сілу няпісанага закона. І Скарына не мог не лічыцца з гэтым. Але як бы там ні было, у выказваннях і дзеяннях першадрукара выразна адчуваецца утапічная мара аб гарманічным свеце ўсеагульнай сумленнасці, узаемнай чалавечай зычлівасці, сапраўднай павагі да кожнага чалавека.

Хрысціянскае веравучэнне думкам аб уладкаванні спраў зямных супрацьпастаўляла вечнае блажэнства на тым свеце. Звычайны чалавек лічыўся ўсяго толькі рабом Божым, у якога не павінна і не магло быць нейкіх асабістых інтарэсаў, памкненняў, апроч думак аб царстве Божым. Што ж датычыць дзейнасці Скарыны, то тут усё пярэчыла такім патрабаванням. І безыменным рабом Божым ён не збіраўся сябе лічыць, падкрэсліваючы на кожным кроку сваю навуковую, чалавечую і нацыянальную годнасць. І нідзе ні разу ён не выказаў жадання заслужыць сабе рай на тым свеце, а ўсё шчыра клапаціўся пра справы зямныя, пра свой "люд паспаліты", пра сваю "братию русь". Бог у яго "милостивый" за тое, што яго "на свет пусціў", а не за тое, што можа зноў забраць да сябе. Усё гэта было сімптаматычным і натуральным у эпоху вызвалення асобы з путаў закасцянелых сярэдневяковых рэлігійных догмаў і садзейнічала абуджэнню чалавечнага ў чалавеку, павагі да свайго роднага краю, роднай мовы, да сваіх вытокаў, станаўленню нацыянальнай свядомасці беларусаў.

400-годдзе беларускага кнігадрукавання, якое прыпала на перыяд рэвалюцый і грамадзянскай вайны, адзначалася ў нашым друку як вялікая падзея ў гісторыі і культуры народа. Той знамянальнай даце ўжо ў Савецкай Беларусі быў прысвечаны фундаментальны навуковы зборнік "400-лецце беларускага друку" (1926—1927) — вяршыннае дасягненне скарыназнаўства 20-х гадоў. Гэта быў пярэдадзень таго катаклізму, які неўзабаве пачаў калаціць усё грамадска-палітычнае і культурнае жыццё рэспублікі.

У 80-я гады шырокім фронтам і з небывалым размахам ажыццяўлялася падрыхтоўка да 500-годдзя з дня нараджэння Францішка Скарыны. Беларускае скарыназнаўства ўзбагацілася многімі надзвычай каштоўнымі публікацыямі — факсімільным выданнем Бібліі Скарыны, зборнікамі дакументаў той эпохі і даследаванняў, прысвечаных гісторыі кнігадрукавання, манаграфіямі, навукова-папулярнымі работамі і інш. А найбольш каштоўным выданнем даследчыцкага характару з'явілася Скарынінская энцыклапедыя. Чытачы атрымалі проста такі непараўнальную магчымасць адчуць дыханне той далёкай эпохі, ад якой нас аддзяляе амаль паўтысячагоддзя. Культурная грамадскасць рэспублікі паспела на належным узроўні адзначыць тое свята перад новым паваротам у гістарычным лёсе нашага народа. А сёння мы ніяк не можам прадбачыць, у якіх абставінах і як будзе адзначацца 500-годдзе беларускага кнігадрукавання, якое не за гарамі.

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

*АРКАДЗЬ МОРКАЎКА — ПАЭТ ТРАГІЧНАГА ЛЁСУ*

# СЛОВА ДАЧКІ

Бацька вельмі любіў сваю маці Марыю Максімаўну. Цяжка перажыў яе смерць у 1919 годзе. З гэтага часу слабеюць ягоныя кантакты з бацькам, малодшымі братам і сёстрамі. Аднак пры знешняй аддаленасці ад сваякоў быў ён незадаволены тым, што сёстры не вучацца — заўсёды пра гэта гаварыў. Ударам для бацькі была смерць сястры, якую ў акупацыю разам з дзецьмі немцы спалілі жыўцом.

Мае дзіцячыя гады, скажу яшчэ раз, цесна звязаны з татам, ён быў для мяне эталонам ведаў. На любое пытанне я атрымлівала зразумелы і ўсебаковы адказ. Ад першай чытанкі і казак Пушкіна (спачатку ён сам чытаў іх мне, пасля вучыў чытаць мяне) мы паступова пераходзілі да больш складаных з'яў і паняццяў. І ўсё ён рабіў цярпліва, без раздражнення, добразычліва. Ён ніколі не павышаў тона. Я не ўяўляю ягонага крыку. Калі ён бываў незадаволены, то неяк па-асабліваму глядзеў на мяне і мне рабілася сорамна, хацелася зрабіцца меншай, лепшай.

Змалку ён вучыў мяне ашчаднаму стаўленню да кніг. Тату была ўласціва незвычайная любоў да кнігі, ён не ўяўляў без яе ўласнага існавання. Бацькава сястра ўспамінала, што аднойчы на вёсцы быў здарыўся пажар і тата абыякава паставіўся да знішчэння хаты і ўсёй гаспадаркі, але плакаў з-за згарэлых кніг. Удругорадзь ён згубіў бібліятэку падчас ваеннага пажару ў 1941 годзе. Загінулі унікальныя кнігі і часопісы, загінуў увесь ягоны архіў. І адразу ж ён зноў пачаў збіраць бібліятэку. Чалавек спакойны і вытрыманы, ён абураўся, калі бачыў сваіх улюбёнцаў у брудных руках, з загнутымі старонкамі. А барані Божа, яшчэ раптам слюнявыя пальцы!

Мы жылі да вайны на вуліцы Бухарына, якая складалася з некалькіх дамоў паміж чыгуначным вакзалам і Віленскім рынкам (там, дзе зараз на вуліцы Свярдлова гастраном). Часта ўвечары тата хадзіў на вакзал па папяросы. Я ішла разам з ім. Мы разглядалі зорнае неба, ён паказваў мне Вялікую Мядзведзіцу, Паўночную зорку, расказваў у даступнай форме пра ўзаемасувязі ў сусвеце, пра паўшар'і і кантыненты, пра зямны рух, пра Каперніка... Вярталіся дахаты з пакупкамі: ён з папяросамі, я — з цукеркамі.

Паступова, з цягам часу, гутаркі рабіліся больш змястоўнымі і цікавымі. Ён расказваў мне пра крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, пра старадаўнія Турава-Пінскае і Полацкае княствы, пра вайну паміж Уладзімірам і Рагвалодам, пра трагічны лёс Рагнеды і Ізяслава. Я ўпершыню пачула пра Кірылу і Мяфодзія, пра Ефрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага, Францішка Скарыну і іншых славутых беларусаў. Аднекуль ён прыносіў чытаць (ужо ішла вайна) кнігі Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча. Ад яго я пачула вершы Максіма Багдановіча. Расказваў ён пра Вялікае Княства Літоўскае і з гонарам дадаваў, што дзяржаўнай мовай княства была беларуская.

Я ўжо была падлеткам, калі аднойчы тата мне сказаў: "Ты ведаеш, памочнікам першадрукара Івана Фёдарава быў Пётр Мсціславец?" І з задавальненнем дадаў: "Пётр Мсціславец — беларус, разумееш?" Пасля я зразумела, што ён ганарыўся гістарычным мінулым сваёй "залатой Беларусі", яе палітычнымі дзеячамі і асветнікамі, і гэтую любоў да нашай Радзімы і нашых продкаў імкнуўся неназойліва, асцярожна перадаць мне. На жаль, у той час яму было невядома, што рускі першадрукар Іван, сын Фёдараў, паходзіў з беларускага мястэчка Пільшычы, што на Нясвіжчыне (як сведчаць дакументы, на тэрыторыі Еўропы і азіяцкай часткі Расіі няма іншага месца з такой назвай).

У нашай сям'і размаўлялі на рускай мове, але тата любіў беларускую. Памятаю такі выпадак: студэнткай я прыйшла з заняткаў дамоў. Адчыніў дзверы тата. Ён з захапленнем расказаў, што толькі-толькі да нас у хату зайшоў чалавек, які гаварыў беларускай мовай. "Ты не ўяўляеш, як ён прыгожа гаварыў, якой цудоўнай была ягоная беларуская мова". З асалодай слухаў ён беларускія песні, любімай была "А ў полі вярба". Вершы пісаў толькі на беларускай мове і думаў, мусіць, таксама па-беларуску.

Дваццаць пятага чэрвеня 1941 года згарэў наш дом (у нас ужо было два пакойчыкі) і ўвесь скарб. Тата быў у гэты час у камандзіроўцы ў Гомелі. Мая патрыятычна настроеная мама пайшла на працу (кіраўніцтва з Мінска ўжо збегла). Горад палаў. Я даўмелася вынесці з палаючай хаты татаў дыплом, мамін заручальны пярсцёнак, сваё зімовае паліто і коўдру — вось і ўсё, з чым мы засталіся. Увечары, калі немцы ўжо былі ў Мінску, на ўскраіне горада, у далёкіх сваякоў, нас адшукаў тата. Раніцай ён і з ім яшчэ двое мужчын падаліся на Усход. Мы развіталіся з татам на ганку чужога дома. Раптам мама ўкленчыла: "Аркадзь! Мы пойдзем разам з табой!" — "Не, — цвёрда адказаў ён, — вайна хутка скончыцца. Немцаў прагоняць месяцы праз два".

Праз некалькі дзён ён вярнуўся ў акупіраваны Мінск, расказваў, што ішлі яны па Маскоўскай шашы, іх пераганялі нагружаныя клункамі, чамаданамі, вазонамі машыны, але ніводная не спынілася, не падабрала людзей, якія ішлі. Дагледжаныя, сытыя чыноўнікі высоўваліся з машын і раілі бацьку і ягоным спадарожнікам звяртацца ў ваенкамат па месцы жыхарства, быццам не ведалі, што няма ўжо ваенкаматаў, няма "планавай" эвакуацыі, пра якую Панамарэнка далажыў Сталіну, а ёсць панічныя ўцёкі.

**Ларыса ПРОНІНА.**

**НА ЗДЫМКУ: Аркадзь МОРКАЎКА ў літаратурным асяродку. 20-я гады.**



**Працяг.**
**Пачатак у № 31.**

**Аркадзь МОРКАЎКА**

* * *

**Я падаю ніжай і ніжай**
**Няўхільна, бы камень закляты.**
**І труп мой сабакі ліжуць,**
**І скачуць навокал вар'яты.**

**І нават не хочу збавення,**
**Бо ў сэрцы адчай і жудасць.**
**Зубамі грызу каменні,**
**І грызці, напэўне, буду.**

**Крывёй пурпуровая кволасць**
**Пазалаціла калоссі.**
**І сілы няма узняць голас,**
**І нехта галосіць, галосіць.**

*8.IX—42 г.*

* * *

**Зразумеў я Тваё імя**
**І бязмежнасць Тваіх граніц.**
**І ў душы пяруны грымяць,**
**І ў душы серабро звініць.**

**Твой глыбокі і вечны след**
**Застые на струмках вады.**
**І пяшчотны блакітны цвет**
**Аздабляе Твае сады.**

**І ў вірох залатых азёр**
**Залатыя агні мігцяць, —**
**Гэта сінія лічбы зор**
**Ты сыпнуў у нямы прасцяг.**

**Ты, каго не магу назваць,**
**Ты — пачатак адвечных сіл —**
**Даглядаеш, каб краскі й трава**
**Напіліся жывой расы.**

**І калі забаліць душа**
**І парвецца надзеяў ніць —**
**Палымее ў агнёх абшар,**
**Салавей у галлі звініць.**

**Рассыпаючы лісцяў шум,**
**Наглядаючы сны снапа,**
**Ты трымаеш маю душу,**
**Каб я ў строму на дно не ўпаў.**

**Ты — Садоўнік садоў красы...**
**Услаўляю Тваё імя,**
**І малю: салаўёў рассып**
**Там, дзе слёзы яшчэ звіняць.**

*8.XI—42 г.*

* * *

**Я хацеў, быццам спужаны**
**страус,**
**Захаваць пад крыло галаву,**
**Але струны па-свойму граюць**
**І сцякаюць па кроплі ў траву.**

**Не схавацца ад праўды вялікай,**
**Не спыніць апантаны боль,**
**Бо калі хто сапраўдны музыка,**
**Дык павінен быць сам сабой.**

**Нырцануў я глыбока ў цішу,**
**Пахаваў у кубелках шум,**
**Але вецер усё ж калыша,**
**Развявае па свеце душу.**

**Але неба у полымі раніц**
**Сіняватым прадоннем**
**дрыжыць,**
**І ніяк не загояцца раны,**
**І стаяць на Гальгофе крыжы.**

*7. VIII—42 г.*

* * *

**Горда па зорнаму шляху**
**Лебедзі ноччу плылі.**
**Іх палічылі з-за гмахаў**
**Рукі апаленых ліп.**

**Лічачы птахаў, угору**
**Крыўду узнеслі да хмар,**
**Падала зорамі гора —**
**Наш гістарычны ўладар.**

**Ведалі й ведаем путы,**
**Боль пакалечаных ног.**
**лебедзі нашай пакуты**
**Плаваюць з намі даўно!**

**Скрыпка міжзорная грала**
**На перагібе вякоў...**
**Сэрца, працятае джалам,**
**Кідаю сёння на кон!**

*28.IX—42 г.*

ВЫСТАВЫ

# ЯНЫ ПРАЙШЛІ ПА ТОЙ ВАЙНЕ...

Ад трагічных і гераічных падзей 1941—1945 гадоў нас аддаляе больш за пяць дзесяцігоддзяў, але нязменна вернымі памяці мінулага застаюцца пісьменнікі, якія ў гэты час вялікага выпрабавання трымалі ў руках зброю, а таксама тыя, чыё дзяцінства было апалена полымем вайны. І менавіта ім — пісьменнікам — удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны прысвечана выстава пад назвай "Яны прайшлі па той вайне...", якая знаходзіцца ў музеі гісторыі беларускай літаратуры.



Гэта выстава створана намаганнямі двух музеяў — музея Вялікай Айчыннай вайны і Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, і з'яўляецца спробай адлюстравання асноўных напрамкаў развіцця беларускай літаратуры пра вайну.

У гады ваеннага ліхалецця пяро нашых пісьменнікаў гэтак жа верна служыла Радзіме, як і салдацкі штык. І таму на выставе прадстаўлена творчасць пісьменнікаў, якія самааддана і плённа працавалі ў рэдакцыях франтавых газет, былі ваеннымі карэспандэнтамі, натхнялі сваім словам на мужнасць і подзвіг, умацоўвалі веру ў перамогу: М. Лынькоў, П. Броўка, К. Крапіва, А. Куляшоў, М. Лужанін, М. Танк, П. Панчанка. В. Вітка, К. Чорны і інш.

Многія пісьменнікі ўдзельнічалі ў партызанскай барацьбе. Сярод іх А. Астрэйка, В. Таўлай, А. Адамовіч, Я. Брыль, П. Пестрак, пра дзейнасць якіх у перыяд вайны таксама распавядаецца на выставе.

Шмат каму з беларускіх пісьменнікаў давялося прайсці франтавымі дарогамі праз баі, акружэнні, шпіталі, каб пасля ад свайго імя, ад імя свайго пакалення, ад імя тых, хто не вярнуўся з крывавых палеткаў вайны, расказаць пра ўбачанае і перажытае. Вядома, у кожнага з іх быў сваё. У А. Бачылы — жорсткія баі на Крымскім фронце. У І. Мележа — цяжкае раненне ў 1942 годзе. В. Быкаў быў двойчы паранены і адзін раз "пахаваны" ў брацкай магіле (лічыўся загінуўшым, калі атрымаў раненне ў студзені 1944 г.). А. Вялюгін удзельнічаў у Сталінградскай бітве і таксама атрымаў у час яе цяжкае раненне. П. Прануза ўзышоў на дах Рэйхстага, а П. Прыходзьку давялося пакінуць свой аўтограф на яго сцяне. Усё гэта засталося ў памяці назаўжды і знайшло сваё ўвасабленне ў творах.

Разам з тым на выставе распавядаецца пра тое, як трагедыя вайны, трагедыя перажытага і передуманага знайшла сваё адлюстраванне ў літаратуры першых пасляваенных дзесяцігоддзяў, калі існавала, па словах А. Адамовіча, "імкненне "перавяваць" вайну", і ў літаратуры перыяду, які зараз умоўна называюць перыядам "лейтэнанцкай" прозы, калі чытачы адкрылі для сябе творы А. Адамовіча і В. Быкава з іх жорсткай праўдай пра вайну.

Таксама нельга было не прыгадаць імёны тых пісьменнікаў, для якіх вайна засталася жахлівым успамінам дзяцінства, як, напрыклад, для Н. Гілевіча, які некалі ў адным са сваіх інтэрв'ю гаварыў: "Пра што б ні пісала наша пакаленне, трагедыя вайны, трагедыя дзяцінства будзе адсвечваць скрозь і да апошняга дня". І таму на выставе не выпадкова можна ўбачыць творы В. Казько, Б. Сачанкі, І. Пташнікава, Р. Барадуліна, Н. Гілевіча.

Але не толькі літаратурныя матэрыялы знаходзяцца на выставе. Побач з імі — мастацкія творы вядомых беларускіх графікаў: А. Кашкурэвіча, чыё дзяцінства таксама прыпала на гады вайны, Ю. Пучынскага і У. Сакалова, якія былі ўдзельнікамі вайны, В. Шаранговіча, П. Драчова. Работы гэтых мастакоў з'яўляюцца своеасаблівым гімнам чалавечай мужнасці і стойкасці ў тыя векапомныя гады, і дапамагаюць глыбей адчуць і паўней зразумець трагедыю вайны. І той, хто наведае гэту выставу, атрымае магчымасць даведацца пра лёс і пазнаёміцца з творамі пісьменнікаў, якія прайшлі па Вялікай Айчыннай вайне, зведалі і вытрымалі ўвесь яе цяжар, і расказалі ў сваіх творах пра перажытае ў імя міру, у імя будучыні.

**Наталля ЯКАВЕНКА,**
**навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.**

**НА ЗДЫМКУ: у час адкрыцця выставы.**

У ЛЕТНЮЮ СПЁКУ







**Фота Зінаіды МІШУРА.**

НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ

# БЕЛАРУСКІ КАСЦЮМ

Тры гады запар пошта Беларусі радуе аматараў маркі цікавымі выпускамі, прысвечанымі беларускаму нацыянальнаму касцюму.

Напомню, што першая такая серыя была выдадзена ў 1995 годзе. Тады на паштовых мініяцюрах былі паказаны — мотальскі строй, пухавіцкі і ваўкавыска-камянецкі. У жніўні 1996 года арыгінальная і пазнаваўчая серыя была прадоўжана. На гэты раз пошта выпусціла таксама тры маркі, на якіх было адлюстравана нацыянальнае адзенне давыд-гарадоцкага, тураўскага, кобрынскага і капыльска-клецкага рэгіёнаў. Серыя марак 1996 года была дапоўнена арыгінальным блокам, на марцы якога быў паказаны нараўлянскі строй. І вось у ліпені гэтага года з'явіліся тры новыя паштовыя мініяцюры. Маркі расказваюць аб беларускіх нацыянальных касцюмах XIX стагоддзя быхаўскага, дзісненскага і навагрудскага рэгіёнаў. 10 ліпеня гэтага года на галоўнай пошце сталіцы адбылося гашэнне новых "касцюмных" марак, паступіўшых у паштовае абарачэнне, арыгінальным спецыяльным штэмпелем. У малюнку гэтага штэмпеля паказаны юнак і дзяўчына ў беларускім нацыянальным адзенні. Малюнак акаймаваны ручніком з нацыянальным арнаментам. Гэта першы спецыяльны штэмпель з падобным малюнкам сярод тых штэмпеляў, якія прымяняліся для гашэння серый "Беларускія нацыянальныя касцюмы".

Да серыі марак з нацыянальнымі касцюмамі гэтага года, слова "першы" можна прымяніць яшчэ раз. Упершыню да падобных серый пошта выдала спецыяльныя мастацкія паштоўкі. Яны выпушчаны спецыяльна для вытворчасці так званых




картмаксімумаў. Малюнкі гэтых мастацкіх паштовак поўнасцю паўтараюць малюнак маркі. Філатэлісты атрымалі прыгожы і арыгінальны падарунак для сваіх калекцый, асабліва тыя з іх, хто цікавіцца тэмай нацыянальнага адзення народаў свету ў філатэліі. Гэтыя мастацкія паштоўкі карысталіся поспехам не толькі ў філатэлістаў.

Як і папярэднія серыі аб беларускім нацыянальным касцюме — серыю гэтага года і мастацкія паштоўкі афарміў М. Рамануок.

Усяго пошта рэспублікі за 1995—1997 гады выпусціла дзевяць марак і адзін блок, што расказваюць аб беларускіх нацыянальных касцюмах. Гэтыя дзевяць паштовых выпускаў ахапілі далёка не ўсе рэгіёны рэспублікі, якія маюць і славяцца сваім асаблівым нацыянальным адзеннем. На жаль, як стала вядома філатэлістам, рэспубліканская пошта вырашыла на гэтым спыніць выданне такой арыгінальнай серыі марак, што мае вялікае пазнавальнае, эстэтычнае і выхаваўчае значэнне.

**Леў КОЛАСАЎ.**

**Рэдактар**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1114. Падпісана да друку 4.8.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**